«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 12 (196), снежань 2022 года



Літаратурная Беларусь

Выпуск № 12 (196) (снежань)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

kamunikat.org/litaraturnaja_bielarus
novychas.online/tags/litaraturnaja-belarus
facebook.com/litaraturnaja.belarus
t.me/litaraturnajabelarus

## Змест



# У кожным радку новы свет

Янка КУПАЛА

### З Новым годам!

*З Новым годам, з Новым годам!*
*З новай песняй, з новай казкай!*
*Зачаруем мімаходам*
*Долі ходы думкай-краскай!*

*Кінем покліч гулказвонны*
*Ад аконца да аконца,*
*Свет паклічам мёртва-сонны*
*Аж да сонца, аж да сонца!*

*Для унукаў, для праўнукаў*
*Расцярэбім сцежкі-шляхі;*
*Хай пануюць над прынукай, —*
*Каб аж к небу лёту ўзмахі!..*

*Над зямлёй зардзіць вясёлка*
*Пасля бураў, ліхалецяў;*
*Бацьку, маці жыць нялёгка, —*
*Хай жа лёгка жывуць дзеці!*

*З Новым годам, што крыніцай*
*Новай пойдзе ў пераходзе,*
*Беларуская зямліца!*
*Беларускі наш народзе!*

Якуб КОЛАС

### Дзед Мароз

*Ходзіць дзед белабароды*
*Полем, лесам, пералескам,*
*Засцілае рэчкі лёдам,*
*Брыльянцістым снежным блескам.*

*Сыпле іней на бярозы,*
*Туліць дрэвы лёгкім пухам,*
*Крые руні, травы, лозы*
*Белай посцілкай-кажухам.*

*Дзеда ўсюды носяць ногі,*
*І к нам прыйдзе на хвілінку*
*Адпачыць крыху з дарогі,*
*Важна сеўшы на ялінку.*

*А ялінка!.. Чаго толькі*
*На яе няма галінках!*
*Свецяць зоркі і вясёлкі*
*У бліскучых павуцінках.*

*Тут лісічка, зайчык, мышка,*
*Рыбкі, буслік доўгавязы.*
*А як ззяюць на ёй шышкі,*
*Нібы ў іх гараць алмазы!*

*Каля ёлкі карагоды,*
*Песні, гутарка жывая,*
*А той дзед белабароды*
*Толькі ў вусы смех пускае.*

*Дык рассунем кола шырай,*
*Патанцуем на намосце,*
*Песняй звонкай, песняй шчырай*
*Прывітаем дзеда-госця.*



Фота abrakadabra.fun

Максім БАГДАНОВІЧ

### Зімой

*Здароў, марозны, звонкі вечар!*
*Здароў, скрыпучы, мяккі снег!*
*Мяцель не вее, сціхнуў вецер,*
*І волен лёгкіх санак бег.*

*Як мары, белыя бярозы*
*Пад сінявой начной стаяць,*
*У небе зоркі ад марозу*
*Пахаладзеўшыя дрыжаць.*

*Вільготны месяц стуль на поле*
*Празрысты, светлы стоўп спусціў*
*І рызай срэбнаю раздолле*
*Снягоў сінеючых пакрыў.*

*Ўзрывайце ж іх санямі, коні!*
*Звіні, вясёлых бомаў медзь!*
*Вакол лятуць бары і гоні,*
*Ў грудзях пачала кроў кіпець.*

Наста КУДАСАВА

***

*І пакуль гэты кволы агмень*
*унутры не астыў,*
*Не змарнеў між пакутамі войнаў,*
*паразамі, згубамі,*
*Я пішу і пішу...*
*Але не адпраўляю лісты —*
*Я не ведаю, хто ты і дзе ты,*
*прыдуманы любы мой.*
*А сустрэнеш мяне —*
*абміні, адпусці да стала*
*Загаворваць усім абяздоленым*
*болькі ды зморшчыны.*
*Толькі вершы вазьмі, зберажы,*
*гэта ў іх я жыла.*
*Там у кожным радку новы свет*
*нашым дзецям прарошчаны.*

Аляксандр НАРКЕВІЧ

***

*Напіцца. Закуліцца спаць.*
*Не быць нідзе,*
*не чуць,*
*не бачыць...*
*Хлусня смяецца.*
*Праўда плача.*
*Жыццё губляе*
*у вазе.*
*І час,*
*як снег,*
*ідзе,*
*ідзе.*
*Халодным*
*покрывам*
*кладзецца*
*на душы,*
*дрэвы,*
*дахі,*
*сэрцы...*

Сяргей ПРЫЛУЦКІ

***

*Такой зімой — няціхаю і злою —*
*калі няма ні святаў, ні святла —*
*так хочацца убачыцца з табою,*
*так хочацца, каб ты заўжды была.*

*Мы маем шанец, маем веру ў дзіва,*
*мы выпадкова выжылі. Пакуль.*
*Ці помніш гэты парк*
*умірана-шчаслівы? —*
*стаіць пад снегам з вочкамі ад куль.*

*Ў свае чатыры ўжо смяяўся з смерці —*
*хто сын наш: сейбіт ці ваяр?*
*Ратуючы жыццё уласным дзецям,*
*працягне род ці ляжа ў яр?*

*Каханая, тут выжылі не ўсе,*
*Але каханне выжыве бясспрэчна.*

*Ляціць, нібы зімовы попел, снег —*
*такі прыгожы і бесчалавечны.*

Усевалад СЦЕБУРАКА

### Снег у Мінску

*Снег ідзе на святога Роха,*
*на Вайсковых падае троху,*
*прыцярушвае Камароўку,*
*Камсамольскае і Асмалоўку.*

*І Купалу ў скверы за плечы*
*абдымае па-чалавечы.*
*Беліць дахі дамкоў Нямігі,*
*робіць айсберг са свіслацкай крыгі.*

*Замірае над Валадаркай...*
*Зноў над плошчай ідзе і паркам,*
*зноў ідзе над жыццём і лёсам,*
*над дымком тваім папяросным.*

*Лістападам ідзе і снежнем*
*над магчымым і непазбежным,*
*над хаўтурамі і радзінамі,*
*над шматлікімі і адзінымі.*

*Светлым ранкам і шарай гадзінай*
*снег ідзе над усёй Радзімай.*

Антаніна ХАТЭНКА

***

*У далёкай, далёкай, далёкай,*
*у самотнай, як ноч, старане,*
*нібы шэпт, нібы шуг, нібы плёскат...*
*Дыхаў час. Дыхаў шлях. Дыхаў снег.*

*І цяплела, цяплела, цяплела*
*на вяку, на зямлі, на душы.*
*І прыгадваў наш дом ацалелы*
*думак, слоў і надзей спарышы.*

*І глыбока, глыбока, глыбока*
*ў закарэлыя раны кары*
*дыхаў золак з прабалцкага боку —*
*і раздзьмухвалі рдзенне вятры.*

*А з-пад хваляў, з-пад хваляў,*
*з-пад хваляў,*
*з учарнелых віроў-хапуноў,*
*з дзёгцю страхаў, што нас пахавалі,*
*як бурштын, засвяцілася дно.*

*Так з прадоння, з прадоння,*
*з прадоння*
*з крыгадзён пільнай-пільнай маны*
*забруяла жывою вадой мне*
*спадзяванне, што мы — не адны.*

*У дарозе, дарозе, дарозе*
*цераз багну і морак-імжак*
*столькі светам загоўных амброзій*
*назбірана з крывёю ў крыжах!*

*...Развіднее. Віднее. Віднее*
*ў блізкай-блізкай маёй старане.*
*Жывадайна з прабалцкай раднеі*
*ў ранне дыхаюць*
*час, шлях і снег.*

# «Трымаюся за зямлю…»

## Лісты Зоські Верас да Уладзіміра Ягоўдзіка

На падараванай мне ксеракопіі «Батанічнага слоўніка» ёсць надпіс: «Паважанаму і дарагому Валодзі Ягоўдзіку на добрую памятку даўгога знаёмства. З. Верас. 26/9 1987 г. Вільня».

Наша «даўгое» знаёмства пачалося ў 1975 годзе, калі я вучыўся на філфаку БДУ. Аднойчы паэт С. Новік-Пяюн паказаў мне «Заранку» — дзіцячы часопіс, які выдаваўся ў канцы 20-х і на пачатку 30-х гадоў у Вільні. Сяргей Міхайлавіч друкаваў у гэтым часопісе свае вершы і расказаў, што яго рэдактарка сябравала з Максімам Багдановічам. Менавіта ён падахвоціў мяне наладзіць сустрэчу студэнтаў з Зоськай Верас, падказаў яе віленскі адрас.

Мы прыехалі сонечнай раніцай, у нядзелю, напрыканцы кастрычніка. На вакзале нас чакаў Лявон Луцкевіч, зяць Людвікі Антонаўны. Спачатку ён прапанаваў нам зрабіць невялікую экскурсію. Прывёў да Вострай брамы і Базыльянскіх муроў, да касцёла святой Ганны. Потым селі ў тралейбус і праз паўгадзіны апынуліся ў зачараваным казачным лесе, упрыгожаным восеньскай пазалотай. А калі дрэвы расхінуліся, на пагорку стаяла хата пад шыферным дахам, з вялікімі вокнамі.

У Людвікі Антонаўны з маладосці быў кепскі слых. Мы задавалі ёй пытанні алоўкам у вучнёўскім сшытку. Яна адказвала ціхім голасам, падобным на срэбраны званочак, паказвала старыя альбомы з пажоўклымі фотаздымкамі, зробленымі ў пачатку 20-га стагоддзя, аўтографы нашаніўскіх аўтараў — Гальяша Леўчыка, Каруся Каганца. Памятаю, з якім хваляваннем я трымаў на далоні невялічкую запіску Максіма Багдановіча…

Затым гаспадыня наліла нам гарабаты, частавала печывам і расхвальвала сваіх гадаванцаў — трох катоў, якія важна расселіся на падваконні. Незаўважна стала сутонець. Пара развітвацца, каб не спазніцца на цягнік. Зоська Верас засталася ў хаце адна, прытуліўшы да сябе ката.

На прыпынак мае аднакурснікі вярталіся з Лявонам Луцкевічам, а мы з Антонам Шантырам (сынам Людвікі Антонаўны) ішлі следам за імі. Ён быў нежанаты, жыў разам з маці. Па дарозе пра штосьці гаманілі, цяпер ужо не прыпомню аб чым. Я не ведаў, што ў маладосці мой суразмоўнік «адпачываў» у сталінскім «санаторыі». Праз тры месяцы, 27 студзеня, Антон памёр, пражыўшы ўсяго 56 гадоў.



Вокладка легендарнай «Заранкі».

У кнізе «Пакуль рука пяро трымае» ёсць радкі, у якіх выразна паўстае вобраз сына Зоські Верас і Фабіяна Шантыра, расстралянага бальшавікамі ў 1920 годзе: «С. п. сын мой вельмі любіў птушак і добра іх ведаў. Заўсёды клікаў мяне паглядзець, якія прылятаюць…».

У пісьме паэту Алесю Бачылу ад 5 лістапада Людвіка Антонаўна паведаміла: «У мяне была такая падзея: прыязджала зь Менска група (5 чалавек) студэнтаў 3-курсу філялёгіі. Усе энтузіясты Максіма Б(агдановіча). Хацелі на свае вочы пабачыць сучасьніцу і знаёмую Максіма. Сымпатычная моладзь, і, на дзіва, амаль усе добра гавораць па-беларуску…»

Я некалькі разоў наведваўся ў Вільню адзін і з маёй жонкай Марыяй, з Алесем Траяноўскім і Яўгенам Лецкам, а таксама двойчы з мастаком Алесем Цыркуновым.

Першы раз мы з Алесем прыехалі ў чэрвені 1985 года. На хутары якраз быў унук гаспадыні Слаўка і яго жонка, сімпатычная літоўка, якая працавала фармацэўтам. За вячэрай Алесь прыгадаў Навагрудскі замак.

«Новогрудок должен принадлежать Литве, — раптам заявіла па-расейску фармацэўт, — там коронавался Миндовг, наш первый король …»

Алесь спрабаваў яе пераканаць, што Навагрудак, Гародня, Ашмяны — не літоўскія гарады. Дарэмна, не прымала ніякіх пярэчанняў. Слаўка, слухаючы іх спрэчку, ніякавата ўсміхаўся, а Людвіка Антонаўна моўчкі ківала галавой. Яна зразумела, пра што ішла гаворка.

Заначавалі мы ў цесным пакойчыку, на паддашку. Толькі ўлегліся — я падскочыў, бо моцна пеканула ў плячо. Аказалася, побач, на дошцы, вісела восінае гняздо. Літоўскім восам не спадабаліся чужакі.

У верасні 1987 года мы завіталі разам з дочкамі, вучаніцамі пачатковых класаў. Зоська Верас была вельмі ўсцешана, што растуць дзеці, якія размаўляюць на роднай мове. Яна сказала, што мы прывезлі ёй свята. Напэўна, і сёння, каб надарылася магчымасць, Вераніка і Юля сваёй грамадзянскай пазіцыяй парадавалі б усіхнюю бабулю — так гаспадыню лясной хаткі назваў выдатны мовазнавец Фёдар Янкоўскі.

Дзякуючы нашым сустрэчам і ліставанню я адчуў жывое дыханне народнага Слова, не заблудзіўся ў тумане камуністычнай прапаганды, а «Заранка» памагла мне ў 90-я гады стварыць часопіс сяброў прыроды «Лесавік».

Да апошняга пісьма быў прыкладзены фотаздымак лясного куточка, зараслага кветкамі. На адвароце надпіс: «Дарагі Валодзя і ўся сям'я! Дзякую за памяць. Сардэчна зычлівая Л. Войцік». Часам я гляджу на гэты здымак і думаю: тут жыве светлая душа незабыўнай Зоські Верас.

Я нічога не скарачаў, не рэдагаваў, а захаваў усе асаблівасці арфаграфіі і сінтаксісу аўтаркі, бо яе лісты нагадваюць партытуру музычнага твора. Назва публікацыі — адно з выказванняў Людвікі Антонаўны; думаю, яно гучыць надзвычай актульна.

**Уладзімір ЯГОЎДЗІК**


Зоська Верас з Уладзімірам Ягоўдзікам. 1980 г.

*6/Х. 75. Вільня.*

*Узрушана была я Вашымі пажаданьнямі і падарункам… Сардэчна дзякую Вам і Вашым сябрам. Што можа больш цешыць старога чалавека, як цёплыя словы і добрыя пажаданьні моладзі!*

*Душа неяк маладзее і расьце ахвота да працы. Пытаецеся: над чым цяпер працую? На жаль, мушу Вас расчараваць: пакуль што нічога не раблю. Чакаю канца работы на гародзе, зімы і доўгіх вечароў. Хоць здароўе не надзвычайнае, але маю надзею выканаць усё, што задумала і пачала. Праўда, работы шмат, але неяк будзе…*



Дарчы аўтограф.

*Восень на гародзе такая ж працавітая, як і вясна. А я ж перадусім — агароднік з замілаваньня. Дзякую шчыра за давер, за весткі аб Вашых марах. Як радасна ведаць, што малады чалавек загадзя думае аб працы грамадскай…*

*З цэлага сэрца зычу Вам, каб мары зьдзейсніліся і то з найлепшымі рэзультатамі.*

*Так, гэта лёгка не будзе. Трэба мець шмат энергіі і надта моцную волю, каб перамагчы тыя перашкоды, якія сустракаюцца на дарозе. Я бы Вам парадзіла загадзя пазнаёміцца са школьным літаратурна-краязнаўчым музеем у Гудзевічах Мастоўскага р-ну Гродзенскай вобл. А перадусім з яго ініцыятарам і фактычным кіраўніком Аляксандрам Мікалаевічам Белакозам — выкладчыкам бел. мовы і літаратуры. Гэта вялікі энтузіяст сваёй справы. І я пэўная, з радасцю падзяліўся б з Вамі сваёй практыкай. Кідалі яму пад ногі каменьне і калоды і матэрыяльныя, і маральныя… Ён церпіць — і далей ідзе раз выбранай дарогай.*

*Ведаю яго асабіста. Была ў Гудзевічах у 1968 г. і ўвесь час маю інфармацыю аб працы і пашырэньні музэю.*

*Літаратурныя музэі — ой як патрэбныя! Не толькі, каб знаёміць жыхароў з творамі сваіх землякоў, але і каб не даць знікнуць роднай мове! Прыедзеце, пагаворым не толькі аб М. Багдановічу, але і аб Г. Леўчыку, з якім я добра была знаёмая. Маю яго лісты, маю ў альбомчыку Яго вершы, віньеткі. Думаю, што з пару старонак альбому можна было б зрабіць рэпрадукцыі для Вашага музэю.*

*Дзякую за газэту з Вашым артыкулам[1]. Што друкаваць такія рэчы цяжка, ведаю добра… Мае ўспаміны аб Г. Леўчыку ляжалі ў «Полымі» паўгода. Столькі ж часу ляжалі ў «Літаратуры і Мастацтве» ўспаміны аб «Гродзенскім Гуртку Беларускай Моладзі». Урэшце я забрала назад адно і другое…*

*Ці Вы чулі, што Беларускае выдавецтва маніцца выдаць зборнік вершаў Г. Леўчыка? Але гэта не хутка — аж за 2 гады. Ладзяць таксама зборнік твораў К. Лейкі. Прыкра мне, што так не хутка падзякавала за павіншаваньні і адказала на ліст. Вельмі не хапае часу!*

*Усяго найлепшага! Л. Войцікава.*

*На ўсялякі выпадак пасылаю тэлефон майго Зяця на працы. Бо можа да Дачкі не ўдасца дазваніцца. Яна — выкладчык на катадры германістыкі ў Педінстытуце і Універсітэце і часта да пазна працуе. Тэлефон Зяця на працы: 32443. Лявон Антонавіч Луцкевіч.*

*5/VII. 77. Вільня.*

*Крыху затрымалася з адказам. Былі розныя перашкоды, ды і надвор'е не выклікае добрага настрою. Холадна — усяго +12, +14, і дажджы льюць з невялікімі перарывамі. Усё расьце вельмі буйна. Трава па калені, а скасіць няма каму… Заўсёды касіў мой с.п. Сын…*

*Ад М. Забэйды я мела кароткую вестку. Ён не атрымаў майго ліста апошняга і ўсё чакаў весткі ад мяне. А калі я, занепакоеная, некалькі слоў ізноў напісала, зараз адказаў. Сумна, што ўсё слабее… А ён жа адзін. Сяргей Міхайлавіч [Новік-Пяюн] пасьля візіту ў нас раз напісаў, а цяпер маўчыць. Магчыма, паехаў у Слонім. Вельмі непакоюся, ці здолее зрабіць альбом Забэйды. Там столькі матэр'ялу — тэксту і здымкаў.*

*Аб матэр'ялах, пасланых Вам, не буду цяпер нічога гаварыць. Астаўляю гэта, калі будзеце ўжо ў сваёй кватэры, з прыватным адрасам.*

*Вельмі дзіўлюся, што моладзь так мала ведае аб працы «тых» часоў і аб значэньні яе ў Беларускім жыцьці. Відаць, трымаюць Вас усіх у поцемках. Ну, што ж, буду жыць — тое-сёе мо пасьпею расказаць, абʼясьніць. Калі каму гэта будзе цікава.*

*Цяпер атрымліваю мала лістоў, відаць, усе паразьязджаліся на адпачынак. Шкада, што пагода адпачынку не спрые. Пішыце. Пастараюся адразу адказваць. Мо што цікавейшае ў мяне здарыцца і будзе аб чым пісаць.*

*А вось, амаль не забылася напісаць… Помніце з біяграфіі Максіма Багдановіча, што Ён у 1912 г. прыязджаў першы раз на Беларусь і жыў 2 месяцы ў фальварку Ракуцёўшчына? Пару тыдняў таму, там, у Ракуцёўшчыне, паставілі і адкрылі Яму помнік. Прыязджалі з Менска паэты і празаікі. Выступалі з прамовамі. Выступалі і дзеці мяйсцовай школы і іх настаўніца. Як вернецеся з лагеру, трэба Вам, усім студэнтам-філолагам, паехаць туды абавязкова!*

*Чакаю Вашых лістоў. Усяго найлепшага!*

*Л. Войцікава. Ад маіх прывітаньне.*

*12./VIII. 77.*

*Дарагі Валодзя.*

*Спаўняю Вашую просьбу — пасылаю адказ на анкету. Не вельмі добра напісала, але самапачуццё благое, цяжка думаць.*

*Што да ўспамінаў, то яны ў рукапісах…*

*Усяго добрага! Л. Войцікава.*

*1/. Улюбёны пісьменьнік — Янка Брыль. Люблю асабліва яго лірычныя запісы. Гэты жанр пазбаўлены штучнай апрацоўкі — шліфаваньня. Думкі плывуць проста з сэрца.*

*2/. Самы памятны дзень? Цяжка сказаць… Мо дзень выхаду «Батанічнага Слоўніка»? Мо 1-га нумару «Заранкі» або «Беларускай Борці»?*

*3/. Што можна дадаць да слоў Фр. Багушэвіча: «Не пакідайце мовы роднай, каб не ўмерлі…». Ці не да гэткага канца даходзім? Скажуць: столькі друкуецца часапісаў, столькі выходзіць кніжак… Аўтары атрымліваюць плату «ад радка», а ў дома, у сям'і, сваёй мовы не ўжываюць. Зразумела, не ўсе… Але шмат, шмат… Было так. У Вільні праходзілі «Беларускія дні». Прыехала дэлегацыя з Менска (прозвішча не падаю…). Яе спаткаў літоўскі пісьменьнік прамовай па-літоўску і па-беларуску. Прадстаўнікі беларускай дэлегацыі адказалі па-расейску! Ці ж не зганьбілі сябе? Горка і сорамна пры адной думцы аб такой падзеі…*

*Яшчэ. Стары беларускі культурны дзеяч прыехаў у Вільню. Па-беларуску гаварыў, а як жа, але толькі ў памяшканьні пры зачыненых дзвярах! На вуліцы, у аўтобусе, у таксі гаварыў па-расейску. Саромеўся сваёй мовы? Ці гэта не вядзе да сьмерці мовы і народу?*

*Надзея на моладзь! Можа, моладзь пакажа сябе больш адважнай, больш прынцыповай, ахвяруе ўсе свае сілы на захаваньне Роднай Мовы, культуры, а тым самым Жыцьця Народу.*

*Л. Войцікава (Зоська Верас).*

*[1]Маецца на ўвазе Зэльвенская раённая газета «Праца», дзе з маёй прадмовай былі надрукаваны вершы заходнебеларускіх паэтаў Гальяша Леўчыка, Анатоля Іверса, Сяргея Новіка-Пеюна і Алеся Сучка. — У. Я.*

# Даследнік рэчаіснасці

## Да 75-годдзя з дня нараджэння Алеся РАЗАНАВА

Анатоль ІВАШЧАНКА


Фота gsu.by

Разанаў — загадка. Разанаў — разэнкрэйцэр. Разанаў — і камень, і скульптар. Ствараючы новыя формы, ён разбурае нормы і парушае законы. Пачынаючы з «Каардынатаў быцця», любы ягоны зборнік — дастатковы для дысертацыі.

Разанаў — Крэпасць, аб якую ламаюцца паэталагічныя дзіды...

Пра Алеся Разанава гаварылася шмат. Чатыры дзесяцігоддзі ягонае імя не сыходзіла з вуснаў неабыякавых да паэзіі. І яшчэ — невядома колькі — не будзе сыходзіць.

Пісалася — меней. Бо што ты напішаш пра тое, як расце дрэва? І заўсёды, як пішацца акадэмічна, «аб'ектыўна», з раскладаннем і прэпараваннем, адчуваеш: не тое, не так, «трэба глыбей». Як адчуваў дваццаціпяцігадовы паэт, калі пакутліва абіраў-нараджаў свой выключны Шлях (ці, праўдзівей, Шлях абіраў яго), ствараючы паэму «Назаўжды», дзе развітваўся з сілаба-тонікай. Развітваўся не назаўсёды.

Калі казаць акадэмічна, у паэме выявіўся ўвесь спектр творчых пошукаў Разанава пачатку 1970-х гадоў. Дайшоўшы да пэўнай прыступкі ў сілаба-тоніцы, паэт пачуўся задушліва ў ейных межах. Таму паэма «Назаўжды» ўспрымаецца як гэткі развітальны рэверанс у бок класічнага вершаскладання. Гэтым поўняцца завяршальныя страфы твора. Вартавы зачакаўся змены.

*Сто сэнсаў налічыць развага*
*станоўчых і анты да іх...*
*Ды сэнсу суцэльнага прага —*
*адзінага —*
*поўніць уздых.*

Адсюль паўстае мысленне, адрознае ад слаўназнанага дыялектычнага руху, мысленне, што шукае новыя формы выяўлення, каб разліцца ў іх.

Засталося задаць каардынаты, набраць у грудзі паветра і... ступіць у нязведанасць.

Як адзначыў Пятро Васючэнка, «Алеся Разанава ў літаратуру прывялі пад канвоем», маючы на ўвазе знакавы зборнік «Шлях-360» (1981), які выходзіў з прадмовай Народнага паэта Пімена Панчанкі, пасляслоўем Варлена Бечыка і пад агульнай рэдакцыяй Уладзіміра Караткевіча. Славутыя рэцэнзенты, са слоў П. Васючэнкі, «абаранялі тэкст спераду і ззаду ад мажлівых абвінавачванняў у авангардызме і нацыяналізме».

Словы Разанава — не толькі паэтычныя, але і паэталагічныя — былі важкія, нечаканыя і патрэбныя для таго, каб зарадзіць сваёй энергіяй 1980-я.

«Паэзія трацціца, калі творыцца па аналогіі, па традыцыі, па майстэрстве — з матэрыі вядомай, і адраджаецца, калі — з невядомай: па адкрыцці, па невыказнасці, па немагчымасці. Думка абмяжоўвае. Наколькі адкрывае, настолькі абмяжоўвае. Чым больш адкрывае, тым больш абмяжоўвае. Разумнае абмежавана, адкрыццё не-разумнае».

Выдыхнуўшы «Жыве эксперымент!», Разанаў выпраўляецца ў шлях, ад пачатку нацэлены на адкрыццё, якое адбываецца як у галіне развіцця рытміка-інтанацыйнай сістэмы, гэтак і ў пашырэнні кола праблематыкі, скіраванасці да анталагічнага асэнсавання рэчаіснасці. Скрозь ламаюцца стэрэатыпы, размываецца мяжа паміж паэтычным і празаічным. Пры гэтым, цесная повязь разанаўскага верша з традыцыяй беларускага вершаскладання не раз заўважалася рознымі даследнікамі. Так, у кнізе Алы Кабаковіч «Беларускі свабодны верш» А. Разанаў цалкам слушна разглядаецца як прадаўжальнік традыцыі нацыянальнай філасофскай лірыкі: ад Купалы і Багдановіча — да Танка і Стральцова. Тая ж непарыўнасць традыцыі заўважаецца і Ганнай Кісліцынай — аўтаркай манаграфіі па творчасці Разанава, дзе цэлы раздзел прысвечаны пошуку паралеляў паміж ідэйна-творчымі пошукамі паэта і класічнай літаратурнай традыцыяй. Праз прызму вершаванай творчасці Вацлава Ластоўскага спрабаваў зірнуць на эксперыментальную паэтыку Разанава Алесь Пашкевіч.

Шырока выкарыстоўваючы ў паэтычных творах дыялогі з сучаснікамі і папярэднікамі, тое, што пазней назавуць інтэртэкставай гульнёй, Разанаў стварае і новы тып літаратурна-крытычнага артыкула, прынцыпы якога пазней скандэнсуюцца ў знакамітых разанаўскіх філасафемах — зномах. У іх паэт прапаноўвае ключ, выпрацоўвае тэзаўрус і да асэнсавання ўласнае творчасці. Гэтак, кажуць, мастак, пішучы партрэты іншых, заўсёды стварае аўтапартрэт. Гаворачы пра Коласа і Купалу («Нататкі на дубовых лістах» друкаваліся ў «Вобразе» за 1983 г.), Разанаў амаль не ўводзіць цытатаў для пацвярджэння сваёй думкі, яго займае сам працэс думання, фармулявання і сачэння за логікай развіцця думкі. Яго мова выходзіць па-за межы звыклага нарматыўнага літаратуразнаўства, аперуючы такімі катэгорыямі і паняццямі (часам нават аказіянальнымі), як «ток мовы», «экстатычны і медытатыўны», «ультрагукавы і інтрагукавы», «энэргетычнае дрэва творчасці», «дапаняццйны сэнс», «іншаведанне» і г.д. Ён не будуе прычынна-выніковых ланцугоў і не выдае пэўную сваю думку як апошнюю інстанцыю, гэтым заклікаючы чытача да сумоўя, самастойнага думання, уцягвае ў працэс сутворчасці...

Выявіўшыся ў 1990-я як флагман інтэлектуальнай паэзіі, А. Разанаў не замкнуўся на скразным інтэлектуалізме, ствараючы як у традыцыйным з фармальнага гледзішча рэчышчы (сілаба-танічныя паэмы пачатку 1990-х гадоў), гэтак і ў межах сваіх эксперыментальных жанраў закранаючы надзённую праблематыку (напрыклад, у такіх версэтах, як «Прэзідэнт», «Кладкі», «Sumus ne simus» і пункцірах сярэдзіны 1990-х).

Шматграннасць творчых набыткаў А. Разанава абумовіла нечаканы вынік пры апытанні дзеячоў беларускай культуры газетай «Наша Ніва», калі большасць рэспандэнтаў сярод літаратараў, вартых звання Народны пісьменнік, назвала А. Разанава.

Тэндэнцыя да лексічнай мінімізацыі паэтычнага тэкста адначасова з імкненнем да гранічнай кандэнсацыі думкі, павелічэнне ступені празаізацыі поруч з вынаходніцтвам новых вобразна-выяўленчых прыёмаў і сродкаў выразнасці, што праяўляецца ў пункцірах, квантэмах, версэтах і вершаказах А. Разанава, з'яўляюцца дамінантнымі ў развіцці сучаснай беларускай паэзіі, аблічча якой сфармавалася пад заўважным уплывам творчасці паэта (зноў перапрашаю за акадэмізм).

Вось далёка няпоўны пералік аўтараў, што працуюць ці працавалі ў адным жанрава-тэматычным полі з А. Разанавым: Ігар Бабкоў, Анатоль Сыс, Адам Глобус, Алег Мінкін, Алесь Аркуш, Ларыса Раманава, Віктар Слінка, Юрась Пацюпа, Міхась Баярын...

Увайшоўшы ў беларускую культурную прастору і сцвердзіўшыся ў ёй як яркі наватар, А. Разанаў на сёння з поўным правам можа называцца пачынальнікам пэўнай паэтычнай школы, што арыентуецца найперш на метафізічны досвед, погляд унутр сябе і праз гэта асэнсоўвае рэчаіснасць.

Асобнай «тэмай для дысертацыі» ёсць шырокая перакладацкая дзейнасць А. Разанава, а таксама блізкая да яе праца па адаптаванні старабеларускай літаратурнай спадчыны — твораў К. Тураўскага, Ф. Скарыны, С. Буднага, В. Цяпінскага, І. Пацея, М. Сматрыцкага, Л. Сапегі і інш. Гэтыя ўзнаўленні-пераптлумачванні А. Разанава могуць разглядацца як самастойны аўтарскі жанр.

Творы А. Разанава перакладзеныя больш як на 20 моў свету, што якасна пашырае беларускі літаратурны кантэкст. Ствараючы тэксты ад пачатку па-нямецку і па-літоўску, паэт нават здолеў увайсці ў моўныя стыхіі іншых нацый і застацца верным свайму прынцыпу: заўсёды рухацца далей, ведучы жывы дыялог з рэаліямі сённяшняга дня, бо «паэзія мае справу з рэчаіснасцю ва ўсім яе маштабе», і той, хто аднačасна пачуваецца шляхам і «тым, хто па ім ідзе», у каго няма загадзя падрыхтаваных адказаў і фармулёвак, магчыма, найперш і варты звання паэта — даследнік рэчаіснасці, які, даследуючы, аднačасна і трансфармуе яе.

«І ляціць нацянькі страла, вынікаючы безупынна з сябе самое, вызваляючыся ад сябе самое, каб, зрэшты, зрабіцца палётам самім».

### У СНЕГА ПОЗІРК МАІХ НАДЗЕЙ

Алесь РАЗАНАЎ (5.12.1947—26.08.2021)

**Снег**

*Такое маўчанне ў снезе,*
*такая далеч,*
*такая бель —*
*што замірае душа:*
*не ўмее яна яшчэ быць такою.*

*Шастае шорсткая асака.*
*Сінеюць самотныя лозы.*
*У вёсцы запальваюць агні.*

*У снега позірк маіх надзей,*
*у снега маіх летуценняў голас.*
*Снег, ты з бясконцасці?*
*ты з дасканаласці?*
*ты са сконý?*

*Усё, што буяла, цвіло, красавала,*
*Усё, што стала мінулым,*
*Усё, што вярнуцца назад не можа, —*
*Вярнулася ў белы снег.*

*У наваколлі яшчэ адно наваколле,*
*У адвячорку яшчэ адзін адвячорак,*
*У долі яшчэ адна доля: снег.*
*Свет спавядаецца перад снегам.*
*Кранаю далонню снег.*

**Маланка**

*Тады, калі я ўвайшоў у бажніцу і,*
*зачыніўшы дзверы, стаў гутарыць*
*з небам, з неба раптоўна*
*ўпала маланка і раскалола*
*бажніцу надвое.*
*Людзі, якія прыйшлі на світанні,*
*адбудавалі з адной яе палавіны*
*бажніцу світання, а людзі,*
*якія прыйшлі на змярканні,*
*адбудавалі з другой палавіны*
*бажніцу змяркання.*
*— Хадзі да нас, —*
*заклікаюць мяне адны, —*
*гэта ж твая бажніца:*
*ты зноў тут зможаш казаць*
*свае словы да неба...*
*— Хадзі да нас, —*
*пераймаюць мяне другія, —*
*гэта твая бажніца:*
*ты зноўку тут зможаш слухаць,*
*што кажа неба...*
*А я ўсё стаю на тым самым месцы,*
*здранцвелы, уражаны, праяснёны,*
*не маючы мовы, каб гаварыць, —*
*з маланкаю ў сэрцы.*

**Апора**

*Нам няма на што абаперціся.*
*Крышталі пэўнасці, на якія мы*
*ўскладалі такія вялікія спадзяванні,*
*нечакана пераўтвараюцца ў ластавак*
*і шпакоў і імкліва адлятаюць ад нас.*
*У вырай, — збянтэжана разводзім*
*мы рукамі.*
*І мы нічога не можам зрабіць*
*з гэтым неспасціжным выраем,*
*не можам яму запярэчыць.*
*Мы жывём у свеце, дзе вечар*
*змяняецца раніцай, вясна —*
*восенню, жыццё — смерцю,*
*дзе час рухаецца ў адзін бок,*
*дзе адзіная адвечна ўстойлівая апора —*
*гэта страчванне яе:*
*в ы р а й.*

**На гэтай зямлі**

*Хто пытаецца ў мяне дарогу на ўсход,*
*Хто — дарогу на захад...*
*Нібы раздарожжа, я паказваю ўсім,*
*Куды ісці, а сам застаюся на месцы —*
*на гэтай зямлі, пад гэтым небам,*
*занадта лёгкі для глыбіні,*
*занадта цяжкі для вышыні,*
*занадта цэласны, каб падавацца*
*ў які-небудзь бок...*
*Вось мая левая рука, вось — правая...*
*Я кладу зерне ў дол —*
*і яно вырастае ў дрэва:*
*на адной галіне ў яго сонца,*
*на другой — месяц,*
*рознагалосыя птушкі з усіх канцоў*
*свету спяваюць на ім свае песні*
*і ладзяць гнёзды...*
*Тут мой захад, і тут — усход.*

**Бязмежжа**

*Палову жыцця падаюся ў свет,*
*палову — варочаюся са свету,*
*палову жыцця пішу на дарозе*
*свае імёны,*
*палову — закрэсліваю напісанае,*
*палову жыцця расту ад зямлі,*
*палову —*
*расту з зямлёю:*
*і ўсё менш ува мне мяне,*
*і ўсё больш*
*бязмежжа.*

# Функцыя



Алесь ПАПЛАЎСКІ

Сустрэліся мы з ім у цягніку, праз шмат гадоў. Не думаю, што гэтая сустрэча была выпадковай. Верагодна, ён шукаў мяне. Ва ўсякім разе, да мяне даходзілі чуткі ад нашых агульных знаёмых, што ён цікавіцца маім жыццём. Не разумею вось толькі, навошта я быў патрэбны яму?..

Ён амаль не змяніўся за гэтыя гады. Тыя ж выпучаныя савіныя вочы, той жа крывы жывёльны ашчэр, — усё гэта было мне знаёма яшчэ з дзяцінства. Сустрэнь яго я на вуліцы, бясспрэчна, паспрабаваў бы прайсці незаўважаным, адвярнуўся б, перайшоў бы на супрацьлеглы бок, ды усё што заўгодна, абы толькі не глядзець у гэтыя поўныя тупога жаху вочы. Але тут, у гэтым цесным купэ на дваіх, нічога падобнага я дазволіць сабе не мог і змушаны быў пакорліва прыняць кінуты лёсам выклік.

Я ехаў у чарговую службовую камандзіроўку ў адзін з аддаленых абласных цэнтраў. Звычайна ў такіх выпадках лепшым сродкам транспарту для мяне быў мой прыватны старэнькі «Гольфік». Але ён ужо некалькі тыдняў знаходзіўся на тэхабслугоўванні. І мне нічога не засталося іншага, акрамя як памяняць яго звыклую раскошу на гэты замызганы спальны тапчан у пракураным дызельцягніку. Спыняўся ён ля кожнага слупа, на кожнай станцыі, але падыходзіў мне тым, што быў начным.

— Замовіш пасцель і заваліся спаць, — суцяшала мяне жонка, збіраючы ў дарогу. — А раніцай будзеш на месцы.

Ён падсеў да мяне праз некалькі прыпынкаў. Згледзеўшы яго ў дзвярах, я не паверыў сваім вачам. Штошто, а аб такім суседзе я дакладна не марыў. Ён кінуў бесцырымонна на вольную паліцу заплечнік і павітаўся. Я моўчкі кіўнуў у адказ. Ноч абяцала быць цікавай.

Мы былі з ім аднагодкамі і вучыліся ў адной школе. Прызнацца, я тады ўжо пабойваўся яго і ўпотай ненавідзеў. І калі ў трэцім класе яго пакінулі на другі год, я нават узрадаваўся, але гэтае непрацяглае і ўскоснае расстанне толькі пагоршыла нашы адносіны. Відаць, ён адчуў маю пагарду да сябе і таму яшчэ з большай стараннасцю стаў праяўляць увагу да мяне. Вучыўся ён дрэнна. Трымаўся адасоблена. Усё, у чым ён добра спрактыкаваўся, гэта ва ўменні біцца. Не ведаю, з якіх меркаванняў, але ў свае сябры з усяго класа ён абраў менавіта мяне. Я ж з ім сябраваць не збіраўся, і калі заявіў яму пра гэта прама, ён шчыра здзівіўся. Па-першае, ён не прывык да таго, каб яму пярэчылі, а па-другое, сябраваць з ім для пераважнай большасці аднакласнікаў было за гонар. Негалосна ён трымаў у падпарадкаванні ўвесь клас, і дзеля спакойнага жыцця гэтая большасць гатова была ахвяраваць шмат чым. Ніхто не хацеў псаваць з ім адносін, таму дагаджалі як маглі: выконвалі за яго хатнія заданні, насілі партфель, падкормлівалі рознымі прысмакамі. Мая ж абыякавасць злавала яго і падштурхоўвала на неадэкватныя ўчынкі. Мы былі з ім рознымі людзьмі і па характары, і па захапленнях. Я любіў музыку і літаратуру. Шмат чытаў. Яго цікавілі зусім іншыя рэчы. Думаю, мне было б сумна і нецікава з ім, таму я стараўся трымацца ад яго на адлегласці. Страціўшы ўсякую надзею дамовіцца са мной мірна, ён вырашыў схіліць мяне да сяброўства з дапамогай сілы. І вось аднойчы, сустрэўшы на паўдарозе, калі я вяртаўся са школы дадому, ён стаў адкрыта пагражаць мне. Збіты з панталыку, спалоханы, я агледзеўся вакол у надзеі ўбачыць хоць каго-небудзь, хто б абараніў мяне. Аднак вуліца была пустэльнай, і чакаць дапамогі было ніадкуль. Я зрабіў крок убок, у спробе абыйсці яго, аднак ён перагарадзіў мне дарогу.

— Адно з двух: або ты станеш маім сябрам, або я цябе прыкончу прама тут, — прыгразіў ён. І я сапраўды ўбачыў у яго руках складны кішэнны ножык.

Падымаючы на мяне руку, ён, мабыць, разлічваў на маю ўнутраную безгрунтоўнасць і слабасць і, натуральна, не чакаў ад мяне ў адказ ніякіх рашучых дзеянняў. Для яго я быў слабаком, і, верагодна, ён хацеў яшчэ раз прадэманстраваць сваю перавагу і пыху. Бо мазгоў у яго галаве не было. Аднак ён пралічыўся. Не ведаю, што падштурхнула мяне на тую бойку. Магчыма, пачуццё страху, магчыма, нянавісць, а магчыма, безвыходнасць, але толькі не смеласць. Біцца я не ўмеў. І ўсё ж я пакалаціў яго ў той дзень. Па-дзіцячы, як змог. А ўвечары на справункі да нас прыйшла яго маці. Ведаючы мае здольнасці, бацька не паверыў ёй, скептычна ўсміхнуўся і не стаў мяне караць за мой учынак.

Адпомсціў ён мне нашмат пазней, пырнуў нажом у жывот. Аднак рана аказалася не надта глыбокай і небяспечнай, і я не стаў падаваць заяву ў міліцыю. З таго часу мы з ім больш не бачыліся. Распавядалі, быццам бы ён паспеў за гэтыя гады некалькі разоў адседзець у турме за разбой. Таксама пагаворвалі, што ён неаднаразова ўдзельнічаў у якасці добраахвотніка ў розных гарачых кропках. Словам, зноў жа, па неправераных чутках, забіваць і здзекавацца з людзей для яго стала справай прафесійнай і звыклай. Вось толькі яго лёс мяне больш не цікавіў. Ва ўсякім разе, я так прымушаў сябе думаць. І вось праз шмат гадоў мы сустрэліся з ім у гэтым цягніку.

У дзверы пастукалі, і ў купэ зазірнула ўсмешлівая правадніца.

— Гарбату будзеце? — пацікавілася яна. Я кіўнуў сцвярджальна і паглядзеў на суседа. Той таксама кіўнуў у адказ.

Маўчанне зацягвалася. Трэба было пра нешта гаварыць, а я не ведаў, пра што. Я баяўся зірнуць навату яго бок і, каб схаваць гэтую сваю разгубленасць, бессэнсоўна корпаўся ў заплечніку. Я адчуваў на сабе яго пільны, пагардлівы погляд, і мне здавалася, што ён бачыць мяне наскрозь, чытае мае думкі, як чытаюць адкрытую газету. І ад гэтай ягонай існай пранікліваці я адчуваў нейкую пакутлівую нязручнасць. Я не ведаў, што мне з гэтым рабіць.

— Есці будзем? — хаваючы раздражненне, спытаў я.

— Я не супраць, — пагадзіўся ён і стаў выкладваць з заплечніка на стол ежу. — У мяне тут таксама тое-сёе ёсць.

Правадніца прынесла гарбату, і мы пачалі вячэраць. Я прадчуваў, што размова намячаецца сур'ёзная, і ўсяляк адцягваў яе. Па вялікім рахунку, мне не было аб чым з ім гаварыць. Хаця...

— Давай, пытай ужо, — пачаў ён размову першым. — Я таму і тут, каб расставіць усе кропкі над «і».

— Ты пра што? — прыкінуўся я, быццам бы не разумею яго.

— Пытай, пытай!

— Добра! Скажы тады, з якой мэтай ты пераследуеш мяне ўсё жыццё?

— Ну вось, бачыш, а ты казаў, што ў цябе няма да мяне пытанняў, — усміхнуўся ён. І пасля непрацяглай паўзы адказаў: — Спачатку мне падалося, што ты і ёсць тое, патрэбнае мне, чаго я сам не маю. І я вырашыў, што наша сяброўства пойдзе нам толькі на карысць. Што ты напоўніш маё жыццё нейкім новым зместам, а я тваё. Аднак, нагледзеўшыся на гэтае тваё дзярмо ў іншых, я падумаў: а ці патрэбна яно мне, ці маё яно?.. Я не ўлічыў аднаго, што надыхаўшыся аднойчы гэтай атрутнай сумессю, мая сутнасць ужо назаўсёды стане атручанай ёю. І чым далей я стану жыць, тым цяжэй мне будзе выдыхаць гэтую атруту з сябе.

— Гэта так... На двух крэслах яшчэ нікому не ўдавалася ўсёдзець, — іранічна ўсміхнуўся я.

— Але ўсё не так. І мне шмат чаго ёсць сказаць табе, — не звяртаючы ўвагі на мой сарказм, працягнуў ён.

— І што ты хацеў бы мне сказаць, калі не сакрэт? — пацікавіўся я. Па спіне прабег казытлівы халадок.

— Нават не ведаю, — задумаўся ён. — Усё будзе залежаць ад таго, наколькі ты гатовы пачуць мяне. Адно толькі магу сказаць табе з упэўненасцю, што такія людзі, як ты, небяспечныя для грамадства.

— Нічога сабе, — здзівіўся я і ўсміхнуўся праз сілу. — І гэта ты кажаш мне... Цікава, чым жа мы небяспечныя?

— Вы занадта складаныя і правільныя. А жыццё — яно іншае. Жыццё нашмат прасцейшае, чым яно вам бачыцца.

— Магчыма, ты хацеў сказаць, што мы занадта справядлівыя? — удакладніў я на ўсяляк выпадак.

Ён гучна засмяяўся.

— Праўдзівыя, яны як і дурні, таксама шкодныя. Хочаш пагаварыць аб справядлівасці?

— Ну дык ты ж у нас спецыяліст па такіх пытаннях. Ці не праўда? — не хаваючы сваёй з'едлівасці, прамямліў я. — Да мяне даходзілі чуткі аб тваіх «праведных» місіях. Аднак жорсткасць і справядлівасць — рэчы несумяшчальныя. Справядлівасць усталёўваецца з дапамогай закону, а не з дапамогай сілы. Ты ж, даказваючы сваю праўату, заўсёды ўжываў сілу.

— У жыцці па-рознаму бывае, — не пагадзіўся ён. — Закон — гэта таксама насілле. Але я хацеў бы сказаць пра іншае. У грамадстве заўсёды знойдуцца тыя, якім не да законаў. І размаўляць з імі даводзіцца на іх мове. Іншай яны проста не разумеюць. А таму страх — гэта тое адзінае, з дапамогай чаго можна трымаць людзей пад кантролем. Страх — гэта і ёсць закон. Пазбаў закон ад пачуцця страху, і закон перастае дзейнічаць. Прывыкнеш вас за справу, а ў адказ чуеш вось гэты ваш дзікі енк пра нібыта неапраўданыя насілле і жорсткасць. Вось толькі ці такія яны неапраўданыя, гэта яшчэ пытанне. І ляментуюць, як правіла, гучней за ўсіх тыя, каму трэба заткнуцца, каго гэта ўвогуле не тычыцца.

— Не ўсё так адназначна, — паспрабаваў я не пагадзіцца з ім.

— Вось-вось!.. Гэтая песня мне таксама знаёмая. Шукаць апраўдання ўсяму вы майстры. І калі я чую гэтае ваша «не ўсё так адназначна», мяне падмывае жаданне набіць вам морду. Гаварыць з вамі далей няма аб чым, — узмацняючы голас, сказаў ён. — Мы, маўляў, не вы. Мы — іншыя. Ды не, дулю вам!.. Вы такія ж вырадкі, як і ўсе. Проста ківач яшчэ не пахіснуўся ў ваш бок. Проста падзеі не закранулі вас непасрэдна. Брахлівыя пачвары!.. Чалавек сам сабе сеће перитварае ў быдла.

— Гэта гледзячы хто, — не пагадзіўся я з ім.

— Усе людзі аднолькавыя, — сказаў ён. — Чалавек — гэта функцыя. Адзін здольны рабіць адно, другі — іншае. У выніку — усё толькі на карысць.

— Сапраўдных людзей, якіх насамрэч можна назваць людзьмі, у свеце – адзінкі, — прамямліў я. — Можна, безумоўна, хаваць ад сябе сваю пачварнасць, як гэта робіш ты. У лепшым выпадку, можна не ведаць пра яе, але гэта не факт, што ты пухнаты.

— Гэта ты сапраўдны? Сустракаў я такіх «сапраўдных». Як толькі вас прышчэміш, дзярмо ваша пачынае перці з вас з усіх шчылін. І гэтыя «функцыі» за мілую душу тады пачынаюць знішчаць сабе падобных. І нагода знаходзіцца, і апраўданне.

— Але менавіта ты, а не я, займаешся гэтым усё сваё свядомае жыццё. — абурыўся я.

— Ты памыляешся. Я займаюся іншым, — спыніў ён мяне. — Я ўсяго толькі абяззброіваю тых, хто збіраецца займацца гэтым. Такіх, як ты: абачлівых, ашчадных, мудрагелістых ублюдкаў. Усе нязручнасці ў свеце менавіта з-за вас.

— Я, у параўнанні з табой, не займаюся нічым супрацьзаконным. Ды і не збіраюся займацца, — ускіпеў я.

— Хто ведае!.. Хто ведае!..

У паветры павісла працяглая паўза. І мне стала неяк не па сабе ад гэтай недарэчнай, выпадковай цішыні. А можа, ад пачутага. Праз пэўны час, калі эмоцыі ўлягліся, я раптам адчуў сваю перавагу над ім, нейкую непарушную сваю праўату. «Так заўсёды бывае, — мільганула крамольная думка, — калі нехта ў тваім разуменні дрэнны, значыць, ты лепшы за яго, значыць, ты на баку дабрыні. Але чым жа ты лепшы за яго?.. Чым?.. Ды хоць бы тым, што ён ненавідзіць людзей, а я спрабую зразумець іх, прыняць іх такімі, якімі яны ёсць насамрэч... Не падманвай сябе. Ты ненавідзіш яго, і нават не хаваеш гэтага... Так, я ненавіджу яго, гэта праўда. Але такія, як ён, і не вартыя маёй павагі і любові?.. Ты супярэчыш сабе. Значыць, ты суперажываеш толькі тым, хто лаяльны да цябе? А як жа тады: "Палюбі ворага свайго?". Ці здольны ты палюбіць свайго ворага? Не здольны... Тады заткніся і маўчы...»

Так, я хлусіў сабе. Я адчуваў: у яго словах, думках, настроі нешта ёсць блізкае мне па духу. Вось толькі што?.. У чым было гэтае наша з ім сваяцтва? Прызнайся, ці змог бы ты забіць яго? Ён цябе запраста. А ты?.. Ці змог бы ты забіць, скажам, некага іншага, як гэта робіць ён, з ідэйных меркаванняў? Або ва ўгоду чыімсьці вар'яцкім загадам?.. Ці, скажам, абараняючыся?.. Не ведаю! — варухнулася і памерла недзе глыбока ў падсвядомасці жахлівая думка. І ад гэтай абуральнай здрадлівай нявызначанасці мне захацелася заплакаць.



Фота АА

— Думаеш, што гвалт — гэта норма жыцця? — парушаючы зацягнутае маўчанне, пацікавіўся я.

— Думаю, што гвалт — гэта неад'емная частка нашай сутнасці.

— Але чаму? — паглядзеў я на яго здзіўлена.

— Таму, што большасць людзей пазбаўлена творчага патэнцыялу. Людзям працей прысвоіць сабе чужое, чым стварыць сваё. Людзі — круцялі. А хто махляр, у таго і пуга. Адны ствараюць, іншыя разбураюць. Так было заўсёды. Гэта ў прыродзе нашай.

— Выходзіць, што гэта наша прырода, нашая сутнасць угатавала нам такую пастку? — усміхнуўся я праз сілу, імкнучыся змякчыць напружанне, якое ўзнікла ў часе гэтага бессэнсоўнага дыялогу. — Атрымліваецца, гэта патавая сітуацыя?

— Не, гэта не патавая сітуацыя, — запярэчыў ён. — Проста ў масе сваёй натоўп неадукаваны і наіўны. Шчасце дурня ў тым, што ён не ведае, што ён дурань, інакш бы ён не змог жыць з гэтым. Ведаеш, у чым нашыя з табой падабенства і рознасць? Нас аб'ядноўвае тое, што мы з табой заўсёды знаходзімся ў меншасці. Але мы супрацьлеглыя полюсы. Мы — Інь і Янь, калі хочаш. Я чалавек справы, а ты — дэмагог. Людзі імкнуцца да стабільнасці і сытасці. Іх цікавіць вынік, а не тваё «бла-бла-бла». Запомні, генератараў ідэй заўсёды ненавідзелі. Людзі думалі, што ўсе беды ад іх. Вы несяце ў жыццё смуту і хаос. За гэта вас знішчалі, вешалі, палілі, распіналі... І камусьці трэба было выконваць гэтую праведную працу. Менавіта для гэтай працы патрэбныя такія людзі, як я. Мае паслугі будуць запатрабаваныя заўсёды і любой уладай. Такія, як ты — ахвяры. А ахвяр ненавідзяць. А мы — героі.

— Навошта ты прыйшоў сюды? — губляючы самавалоданне, спытаў я.

— Каб расквітацца з табой...

Хтосьці трос мяне за плячо. Я адкрыў вочы, не разумеючы, дзе знаходжуся.

— Пад'ём! Пад'язджаем!.. — сказала правадніца і выйшла з купэ. Я паглядзеў на суседнюю паліцу. Яна была пустая.

— Гэй!.. Стойце!.. Пачакайце!.. — дагнаў я правадніцу ў калідоры. — На якой станцыі выйшаў мой сусед?

— Які сусед? — перапытала яна. — Вы былі адзін у купэ.

— Адзін?..

Цягнік прыбываў на канцавую станцыю. І мне здалося раптам, што я пакідаю не яго, а будынак нейкага сярэднявечнага тэатра, на сцэне якога толькі што разыгрывалася жахлівая трагедыя, галоўным персанажам якой быў я. Я быў адначасова і на сцэне, і ў зале. Я разглядаў сябе зблізку і здалёк. Я ненавідзеў сябе за гэтую сваю недасканалую генетычную самасць. Хацелася як мага хутчэй растварыцца ў безабліччым гарадскім натоўпе. Стаць такім жа абыякавым, невукам і незаўважным, як усе. Я пільна ўглядаўся ў твары незнаёмых мне людзей і шукаў сярод іх яго. Я нават не падазраваў, што шукаю насамрэч не яго, а сябе ўчорашняга — таго, ад якога толькі што паспрабаваў адрачыся...

*Студзень 2022 г.*

# Знак сякеры



Марыя ВАЙЦЯШОНАК

***

*кім быў камень*
*дагэтуль*
*магу запэўніць*
*ён быў чалавекам*
*здрадзілі якому*
*рукі не падняць*
*каб перахрысціцца*

## Пазней за сароку

*засявала*
*палола*
*падбірала*
*перад зімой*
*увесь час на каленьках*
*каб балючую спіну*
*не строніць*
*як дзіцяці*
*як маленькай у калысцы*
*перабірала зямлю*
*рукамі*
*перасцілала ёй лета на восень*
*зіма паднімала мяне пад пашкі*
*ставіла на ногі*
*сарока беласнежнай грудкай*
*цісналуся да жылля*
*раней за мяне*
*да хаты прылятала*

## Радзіма

*пакінуць Радзіму*
*што ў час ледаходу*
*саслізнуць з крыгі*
*паратунак адзіны*
*ільдзіна*

***

*апошняя лістота*
*ў садзе*
*на ветры пляскала ў ладкі*
*пад апладысменты*
*сыходжу да вясны*

***

*убачыўшы колер юлёвы*
*я яго выпіваю вачыма*
*як пчала*
*нектар з кветкі*

## Белае пёрка

*лебедзі на маё поле*
*прыляцелі*
*белае пёрка*
*першага снегу*

***

*іду асцярожна*
*свежая ралля*
*ніводнага следу*
*мой крок*
*мой след першы*
*як у дзяцінстве*
*і дзіўлюся*
*з самой сябе*
*і цешуся*

## Шчасце

*выпадкова ў рукі*
*трапіў ліст паперы*
*спісаны маёй рукой*
*расхвалявалася*
*быццам гэта старажытная знаходка*
*нешта каштоўнае*
*а гэта самая галоўная*
*сведка*
*майго жыцця шчаслівага*
*калі я магла бачыць*
*гэты жорсткі*
*дзікі*
*і боскі свет*

***

*у агародзе*
*ў садзе*
*ўвесь дождж*
*сабрала*
*ручаём бегла*
*да ганка*

***

*раніцай прачнуцца*
*як пупышкай на родавым дрэве*
*развіхнуцца*
*забыцца на крыўды*
*здрады*
*о, гэта ранішняя радасць!*

## Званы

*лета*
*спёка*
*мне зум пчалы*
*як зык трывогі*
*як напамінак*
*пра небяспеку ў свеце*

***

*рэха ў замшэлым лесе*
*чый гэта голас?*
*мяне кліча*
*як зманлівую шэрую зязюлю*
*мой стары пакінуты сад*

## Дзічка

*прарэджвалі дзікую*
*маладую яблыньку ў садзе*
*сякераю ачышчалі*
*сучча-ламачча*
*кожная галінка*
*пругка напята*
*секлі на паленцы*
*пятачка каленца*
*бы дрэва ў лес*
*збегчы збіралася*

## Мая ўпраўка

*Рознакаляровыя промні сонца*
*ахапкамі на зіму зносіла*
*спелы сланечнік*
*выбіралі птушкі*

***

*бывае дзень*
*калі ніхто ў садзе*
*не азавецца*
*і раптам*
*усходняга маку галоўка*
*ўспыхне ля самых ног*
*мы не бачыліся*
*цэлы год*

## Навальніца

*дом мой скрануўся з месца*
*хацелася ўстаць*
*паглядзець ў акно*
*дзе мы гэта ёсць?*

## Бягучая з сабакам

*як злодзей*
*схавала пад палу*
*сваё сэрца*
*каб розум не страціць*
*мы адлучыліся*
*з сабакам*
*ад натоўпу*
*ад людзей*
*ад табуна*
*ноччу*
*кладземся спаць*
*на зямлі*
*дзе спыніўся*
*наш след*
*мы не адчуваем сябе зямлянамі*
*бягучая з сабакам*
*ад вайны*



Фота pomnim.com

## Сем прытопаў

*лесвіца ў доме*
*уверх уніз*
*толькі пасталеўшы*
*даведалася*
*палічыла колькі сходак*
*яны запаволілі*
*мой крок*
*ах!*
*сем прытопаў*

## Поле

*абы толькі ўбачыла*
*зрокам*
*ляту над ім нізка*
*і ў гэта імгненне*
*не маю*
*ні назвы*
*ні наймення*
*не завіце мяне да сябе*

***

*раніцай*
*адчыніўшы дзверы*
*ўбачыла на ганку*
*пёрка птушынае*
*нарэшце*
*мне не эСэМэСка а ліст*
*уведамлялася*
*што вярнулася з выраю*
*ліст з-пад цёплага крыла*

## Дамоў

*статак коз*
*з пашы вяртаецца*
*ідуць шчыльна*
*капыток да капытка*
*і не наважны на вяроўку*
*галоўкі прыўзнятыя*
*бы на глыбокай плыні*
*кожны вечар*
*будзіць ува мне*
*самую жалосную ноту*
*ад самага пачатку майго веку*
*праз усё жыццё*
*дамоў!*
*І яшчэ раз дамоў!*
*У Грыдзькі*

## Рэха вясны

*насення поўная жменя*
*кожнае ў шалупайцы*
*знутры зашчапіўшыся*
*зярнюк ведае свой колер*
*імя сваё*
*сланечнік заву*
*не адзываецца*
*маўчыць*
*шкадую класці*
*ў сцюдзёную зямлю*
*думаю падгадаваць*
*на сподак*
*у вільготную пялюшку*
*завіхнула*
*пакуль не расшчэпіцца шалупінка*
*не высунецца белая ножка карэньчыка…*
*расчыняю вокны і дзверы*
*ўвесь час выдаецца*
*што нехта кліча*
*а гэта рэха вясны*

## Знак сякеры

*пасля працы ў садзе*
*дамоў вярнулася*
*здымаючы на ганку*
*боты-гумовікі*
*абапёрлася на зрэз бервяна*
*на далоні смала!*
*чую водар лесу*
*рана яшчэ жывая, крывавіць*
*колькі дому гадоў?*
*час не лечыць*

## Палон

*хваля за хваляй*
*крок нароўны*
*быццам толькі што*
*пачуўшы музыку*
*сышліся збегліся*
*хвіліну назад*
*сашчапіліся*
*мужчынскі танец сіртакі?!*
*Пляччо ў пляччо*
*і не адразу заўважыш*
*што яны падтрымліваюць*
*адзін аднаго*
*як на крыжы*
*загадзя дамовіўшыся*
*быць разам*
*ідуць шчыльна*
*ў рытме марской хвалі*
*з пенай на вуснах*
*яны выраплі памерці*
*не ў баі*
*і не героямі*
*іх зямля*
*сама зямля развярнула*
*па вясне дамоў*
*ішлі хваляй*
*не спадзеючыся на спагаду*
*магчыма толькі ганьба*
*ці трыбунал*
*але жыць!*
*гэта смага*
*зберагчы сваё цела*
*сваё імя*
*сваё семя*
*яны ішлі ўпарта*
*ішлі ў палон*
*жыцця жорсткага зманлівага*
*але жыць!*
*я прайшла разам з імі*
*некалькі крокаў*
*зняверапая*
*нахілёная да самай зямлі*
*і шчаслівая*
*бо ніколі не трымала злосці*
*на сваіх вінавайцаў*
*няпомслівая*
*кожны з гэтых мужчын*
*проста выстраліў уверх*
*і адкінуў зброю ўбок*

***Сілічы, 2022 г.***

# На незахмуранай вяршыні

Леанід ГАЛУБОВІЧ

Некалі быў у Алены Васілевіч артыкул амаль з такой назвай пра «Хаджы-Мурата» Льва Талстога. Ён мне запомніўся. І напраўду, калі ўздымаешся на вяршыню чалавечага, а тым больш творчага веку, на свой Манблан ці Эверэст, то найперш раздумваешся не над тымі цяжкасцямі і стратамі, што паўставалі пры пад'ёме, а над плёнам і вартасцю ўсяго свайго шляху.

Ёсць людзі, схільныя да ўяўлення значнасці сваіх набыткаў, спісваючы грахі і няўдачы на выпадковасць ды непазбежнасць, а ёсць тыя, хто ставіцца да нажытага і перажытага даволі крытычна. Думаю, Алена Сямёнаўна Васілевіч менавіта з такіх. Вядома, яна добра разумела і холадна ўсведамляла сваю амаль здзейсненую планіду, яе перыяды росквіту і ўзлёту, як і часы завядання і бяскрылай стомленасці.



Алена Васілевіч, Уладзімір Васілевіч і Леанід Галубовіч. 2017 г.

Нарадзілася вядомая пісьменніца 22 снежня 1922 года пры Слуцку, у вёсцы Ліпнікі, але яшчэ ў малалецтве пазбавілася родных бацькоў з прычыны іх заўчаснай смерці і гадавалася непададлёк у сваіх родзічаў. Няхай і ў любімых дзядзькоў-цётак, а ўсё ж не ў мамы і таты. Гэта быў першы экзамен жыцця, гартаванне характару і паводзін у чалавечым грамадстве. Ведаючы Случчыну як своеасаблівы гістарычны «анклаў нацдэмаўшчыны», не трэба гадаць, што пасля сямігодкі юная Алёна абрала для сябе беларускую філалогію — адпачатку ў мясцовым педагагічным вучылішчы, пасля — у Рагачоўскім настаўніцкім інстытуце. (Падчас вайны служыла ў бібліятэцы шпіталя і як вольнанаёмная пісарам у вайсковай часці.) А ў 1944 годзе была прынятая на філалагічны факультэт БДУ. Працавала ў кніжнай рэдакцыі выдавецтва «Курская правда», а пасля пераезду ў Мінск (1950) — загадчыцай аддзела культуры папулярнага тады і шматтыражнага часопіса «Работніца і сялянка». З 1972 года загадвала рэдакцыяй літаратуры для школьнікаў у выдавецтве «Мастацкая літаратура», а з 1980-га тры гады аддала службе ў рэдакцыі выдавецтва «Юнацтва»...

Напісала шмат кніг прозы і эсэістыкі. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі (1976). Заслужаны работнік культуры (1977).

Вось і ўсё. Лічы, у нейкіх дзесяці радках змясцілася біяграфія шырока вядомай пісьменніцы. Аднак неафіцыёзны лёс яе куды шырэйшы і не так гладка вымашчаны. Да часу літаратурнага прызнання былі складаныя і доўгія пробы пяра, прыцірання і абжывання ў літаратуры, замуства, сям'я, дзеці, мітрэнгі, нервы... Памерла гадоў любімая дачка Наташа, і сын Уладзімір (вядомы навуковец-фалькларыст) прытуліў яе годную старасць. І калі ёй яшчэ маглося, яна гатовая была табе, на тры дзясяткі гадоў малодшаму, падтрымаць заняпалы дух у тэлефоннай размове — і жывой гутаркай, і класічным доследам, і прачулым словам. Сама ж пры дакучлівым роспыце адгаворвалася кароткай ясенінскай цытацыяй, — маўляў, што казаць, калі ўжо «скоро мне в дорогу бренные пожитки собирать»...

Алена Васілевіч пачалася з Ганькі. Гэта значыць, з сябе. Напісанне вядомай тэтралогіі «Пачакай, затрымайся...» вызначыла і назаўжды ўпісала яе як творцу ў гістарычныя аналы нашай нацыянальнай літаратуры. Вядома, пад высокім небам усё адносна, і ўсё ж... Яна сама, зведаўшы сіроцтва з самага маленства, нарэшце сталася «сурагатнай мамай» для многіх беларускіх дзяцей, якім сёння за сорак і больш... Менавіта пераважная большасць людзей гэтага ўзросту часцей за ўсё скажа вам, што па сваім жаданні ў юнацтве чыталі, найперш, Янку Маўра, Алену Васілевіч ды Івана Шамякіна...

Таму Алене Сямёнаўне як бы было чым ганарыцца, ды не ставала ахвоты і нагоды. І не толькі з-за старасці ды хваробы, але і з-за несупадзення з цяперашнім часам... Надта ж ён барабанны, недаверліва-хлусліва і прагматычны... Але — што, ранейшы быў інакшым, ці проста мы самі былі іншымі? Маладзейшымі, здаравейшымі, прагнымі да неспазнанага і спакуслівага... Якраз такімі, як і сённяшняе маладое пакаленне. Толькі са сваімі, характэрнымі для свайго часу, прыбамбасамі. Лепш, чым Эклезіяст, ніхто не скажа: «няма нічога новага пад сонцам». Застаюцца адно выпакутаваныя ў часе матэрыяльныя, мастацкія і духоўныя вартасці.

Колькі памятаў Алену Сямёнаўну, ніколі не было ў ёй і знаку высакамернасці альбо пагарды. Прыродная натуральнасць, інтэлігентная вытанчанасць, жаночая статнасць і высокая чалавечая годнасць вылучалі, але не выстаронькалі яе сярод людства ці то ў вялікім гурце, ці то tet-a-tet. Пры любых адносінах з ёй не ўзнікала той напружанасці, якая прыхалоджвае і аддаляе. На разгайданыя хвалі нераспазнанасці адразу выкідвалася выратавальнае кола цытатнай літаратурнай класікі: а памятаеце — у Коласа, Пушкіна, Буніна, Талстога, Стральцова?! Да таго ж яна заўсёды была ў курсе самых свежых літаратурных навін, рэгулярна чытала (пакуль дазваляў зрок) нашы незалежныя выданні. Перажывала, хвалявалася...

Прачытаўшы мой чарговы агляд «Дзеяслова» ў «Літаратурнай Беларусі», тэлефанавала і заўжды перапытвала, а ці сапраўды варта ахвяраваць вачыма і часам дзеля твораў таго ці іншага аўтара, якіх я вылучаў у сваім опусе сярод іншых... І чытала, і дзялілася ўражаннямі.

Я напачатку вельмі здзіўляўся гэтай яе чэпкай памяці і паслядоўнай інтэлігенцкай натуры. А пасля вызначыў, што ўсе гэтыя якасці ёй вельмі пасуюць, «да твару», як кажуць, бо характарызуюць яе як жанчыну і чалавека, а не разлічаныя на паказную ўвагу і захапленне пэўнага субяседніка.

Як чалавек класічнай загартоўкі (яшчэ б, сам Якуб Колас быў яе настаўнікам і апекуном на першых літаратурных прыступках), Алена Сямёнаўна вельмі насцярожана ставілася да ўсякіх новых фармалістычных літаратурных павеваў, але і сярод адвеенай паловы не праміналa заўважыць і здаровае зерне, калі яно там апыналася. Не часта, але бывала.

Між іншым, у 70 — 80-я гады не раз публічна ў друку падтрымлівала адораных літаратараў, якія самі не мелі магчымасці і нахабства заявіць пра сябе. Як чалавек без комплексаў, скажу, што ў свій час адным з іх быў і я, колішні «прапашчы» выпіваха і калгасны электрык... Людзі, якія бывалі ў такіх сітуацыях, ведаюць, як дорага каштуе такая бескарысная падтрымка.

На маю думку, шмат якія творы Алены Васілевіч унутрана напоўненыя вось гэтай чалавечай спагадай і спробай зразумення, і ўсе героі яе лепшых твораў, па-талстоўску кажучы, «духаборцы» — простыя зямныя людзі, якім «баліць душа» і ўсё тое, што спараджае гэты боль. Шмат якія вобразы пісьменніцы настолькі натуральна выпісаныя, што чытач абсалютна ўпэўнены ў іх фізічным існаванні. Цяперашні літаратар дзеля сваіх герояў ужо гэтак не ахвяруе ўласнай душой, нервамі і высокай энергетыкай. Можа таму, што большасць сучасных «герояў» і не патрабуе таго, абыходзячыся халоднай рацыянальнай прагматыкай жыцця.

«Любить иных тяжелый крест». Алена Васілевіч любіла — і жывых людзей, і іх прататыпаў, выпісаных ёй для літаратурнага жыцця...

Пра яе не надта каб шматтомны, але важкі літаратурны плён пісалі многія адметныя крытыкі і калегі: А. Кулакоўскі, Л. Салавей, М. Барсток, Н. Пашкевіч, П. Пестрак, М. Стральцоў, У. Юрэвіч, А. Зарыцкі, Я. Крупенька, В. Макарэвіч, В. Жураўлёў, С. Александровіч, Р. Шкраба, Т. Шамякіна, Ю. Канэ, С. Лаўшук, У. Рубанаў, А. Сямёнава, В. Каваленка, Б. Бур'ян, Г. Шупенька, М. Тычына, С. Андраюк, А. Разанаў, А. Федарэнка, Л. Рублеўская, Ц. Чарнякевіч... Пэўна не ўсіх згадаў, але і гэтых вядомых у нашай літаратуры людзей дастаткова, каб сказаць, што пісьменніца Алена Васілевіч «не самотная», бо чытача і ўвагу мела...

Хацелася б сёе-тое працытаваць з водгукаў некаторых згаданых літаратараў — ад старэйшых да самых маладых. Вось як вызначаў яе творчасць Барыс Бур'ян у прадмове да трохтомніка «Выбраных твораў» (1982): «У кнігах А. Васілевіч прываблівае тое стрыманае, але выразнае замілаванне самім ніколі непаўторным жыццём, якое ўплецена ў істоту жаночага таленту наогул. Пісьменніца вітае ўсю складанасць і супярэчлівасць чалавечага лёсу, калі ён толькі сапраўды чалавечы і чалавечны. Яе гераіні не вельмі рэфлекторна, але ўсё ж разважаюць аб хуткасці часу, які адбірае ў іх гадзіну, дзень, тыдзень, месяц, год за годам. І таму для мяне старонкі прозы А. Васілевіч — гэта, вобразна кажучы, пялёсткі прасветленай тугі. Не адчаю. Не роспачы, не фатальнага песімізму, а менавіта тугі — ад жыццялюбства і радасці жыцця, такога па сутнасці мімалётнага».

А так пісала ў сваім артыкуле Ала Сямёнава (артыкул у часопісе «Крыніца» (1996)): «Пісьменніцу цікавіць аўра матэрыі, псіхафізічны стан, што адухаўляе наша быццё, ствapae яго настрой, вызначае яго танальнасць. Калі выяўляюцца характары і адметнасці асобы, калі дэталі высвечваюць трагіфарсы, трагікамедыі, драмы нашага жыцця. І ў тым, мне здаецца, прывабнасць яе пяра. Пяра тонкага, лірычнага».

Ціхан Чарнякевіч («Маладосць», 2012): «Я еду ў электрычцы і чытаю Алену Васілевіч. <...> Ганька з Зялёнай Дубровы. Суцэльная музыка дзяцінства, вясковая энцыклапедыя, дзе кожны раздзел на сваім месцы, незалежны ад патрабаванняў часу. Да дзяцей не чапляліся — што з іх возьмеш? Балазе, гаворка ішла пра мінулае. Прыкладна гэтаксама апраўдваецца і Якуб Колас са сваёй «Новай зямлёй». Маўляў, «адлюстраванне дарэвалюцыйнай рэчаіснасці», і ўсё тут. Тое ж з Аленай Васілевіч. <...> Новы свет (бясспрэчна, больш камфортны і лёгкі) непазбежна руйнуе стары. І планета Кастуся, і планета Ганькі знікла. Але мы ўдзячны іх аўтарам і героям, што яна, гэтая планета, была. І яна ёсць і будзе, пакуль ёсць «Новая зямля», «Пачакай, затрымайся...» і шмат іншых беларускіх кніг, без якіх гэтыя сенажаці і пусткі, што праплываюць зараз за вакном майго вагона, застануцца бясслоўнымі сведкамі ўласнага існавання. Цяпло чалавечага сэрца робіць іх часткай культуры».

Для тых, каго зацікавіць мажлівасць пазнаёміцца з творчасцю выдатнай пісьменніцы альбо прылучыць да яе гуманістычных твораў сваіх дзяцей, пералічу асноўныя выданні Алены Васілевіч: «Блізкія знаёмыя» (1954), «Падслухала сэрцам» (1960), «Калінавая рукавічка» (1963), «Пісар стравой часці» (1969), «Пачакай, затрымайся...» (1972), «Мыс Добрай Надзеі» (1977),«Шурка Рэмзікаў» (1985),«Люблю, хвалююся – жыву...» (1986), «Элегія» (1988), «Першая жонка нябожчыка» (2002), «Выбраныя творы» (залатая серыя «Беларускага Кнігазбора», 2010), «Горкі ліпавы мёд» («Школьная бібліятэка», 2011).

...Некалі ў «ЛіМе» свой артыкул пра Алену Васілевіч я закончыў вось гэтымі яе словамі. Не грэх і паўтарыць іх, бо лепш не напішу:

«Кожны раз, калі я азіраюся ў тую, цяпер ужо даўнюю далячынь, кожны раз я пытаюся ў сябе: «Няўжо гэта там, за тым засмужаным ружовым туманам ранкам, жывой галінкай зелянееш ты сама? І гэта тваім босым нагам гэтак лёгка хадзіць па зямлі, а загарэлым рукам гэтак прагнецца дацягнуцца да ўсяго на свеце? І няўжо твая гэта песня звініць і не ведае стому з ранку да вечара? І гэта ў цябе столькі шчырага даверу, хто б ні стрэўся табе на дарозе, хто б ні азваўся да цябе прыхільным словам?».

І цяпер, калі між нас лягла такая неабсяжная прастора часу і ўзросту, калі столькі камення лягло на той дарозе, якая нас развяла і раз'яднала, я пытаюся, дзівячыся і спадзеючыся:

— Тая даўняя з таго далёку ТЫ — гэта Я; і Я цяперашняя — гэта ТЫ таксама?

— І я заву цябе са смуткам і надзеяй адтуль, з тае раніцы:

— Пачакай, затрымайся...».

# Апошняя старонка

Амаль ніколі Алена Васілевіч не захоўвала сваіх рукапісаў. Старонкі, передрукаваныя бездакорнай машыністкай Янінай Шабуняй, з якой яна разам доўгія гады працавала ў часопісе «Работніца і сялянка» (толькі ёй прыносілі ўсё напісанае і Брыль, і Мележ) — гэтыя старонкі ішлі далей у рэдакцыі, у выдавецтвы. А самі рукапісы? Яны адразу ж без шкадавання рваліся на шматкі. Маўляў, навошта яшчэ і іх зберагаць? Каму яны патрэбныя? Таму — калі што і заставалася ў шуфлядах пісьмовага стала, дык хіба толькі выпадковае: нейкія занатоўкі для самой сябе, нейкія фрагменты з вычытанага ці пачутага. Да таго ж, мама неаднойчы казала: «Усё, што хацела надрукаваць — надрукавана».

З узростам яна выдатна разумела, што прыйшло новае пакаленне літаратараў, прыйшоў новы чытач. Адчувала, што ўсё асноўнае, чым поўнілася душа, выказана. Была ўжо напісана і шмат разоў перавыдадзена на розных мовах галоўная кніга жыцця — яе ўласнага жыцця, ад дзяцінства да сталасці, — «Пачакай, затрымайся...». Шчаслівы лёс быў у гэтай кнігі, на якую адразу адгукнуліся многія чытачы. «А што было далей?» — пыталіся яны. І пасля першай кнігі «Расці, Ганька!» нарадзілася наступная — «Доля знойдзе цябе». Але і на гэты раз зноў гучалі тыя ж пытанні: «Што далей было з Ганькай?». А Ганька расла. З'явілася трэцяя аповесць — «Новы свет». І пасля яе выхаду чытачам, якія сталі сябрамі гераіні, хацелася ведаць, што сталася з Ганькаю потым. Здаецца, ужо ні для каго не было сакрэтам, што жыццё Ганькі — гэта жыццё самой пісьменніцы. І, напэўна, менавіта таму заключную аўтабіяграфічную аповесць Алена Васілевіч пісала ўжо ад першай асобы.

Апошняе прыжыццёвае выданне тэтралогіі «Пачакай, затрымайся...» было дапоўнена напісанымі ў розныя гады апавяданнямі, у якіх праходзілі наступныя этапы жыцця Ганькі, а гэта значыць — самой Алены Васілевіч (увогуле, усё напісанае ёю — не плады фантазіі, а адлюстраванні асабістага лёсу). З усмешкай мама казала: «Ну, цяпер застаецца напісаць толькі адзін раздзел — «Ганька памерла...».

І вось, праглядаючы назапашанае пісьмовым сталом пасля мамінага сыходу, убачыў я пажоўклы ад часу аркуш паперы, на якім было напісана: «Вяртанне», і падзагаловак — «Сон». Хутчэй за ўсё апісанае на знойдзенай старонцы сапраўды некалі саснілася маме. Гэтым сном яна паставіла канчатковую кропку ў сваёй творчасці. І ў сваім жыцці.

*Уладзімір ВАСІЛЕВІЧ*
*14 лістапада 2022 г.*



Рэдакцыя часопіса «Работніца і сялянка» (Алена Васілевіч – злева), сярэдзіна 1950-х.

# Вяртанне

## Сон

Алена ВАСІЛЕВІЧ

Першая стрэла мяне мама. Разагнулася і адной рукой апіралася на перакладзіну крыжа, другой — казырком — засланяла адвыклыя ад святла вочы. Стаяла гэтак, узіралася і смутна пазнавала мяне і не пазнавала. А я пазнала яе адразу — нібыта яна толькі ўчора ці пазаўчора пайшла з нашае хаты. Толькі была яна не ў тым новым шэрым плацці, якое прасіла пашыць на смерць ёй цётку Яўгеніху, а як на даўняй, яшчэ дзявочай яе, фотакартцы, дзе яна стройная, у зграбнай доўгай шарсцяной спадніцы «са шчотачкай» на падоле і ў блузцы з брыжастым каўнерыкам і манжэтамі сядзела за маленькім столікам, а на століку ляжала гронка бэзу. І на нагах у яе — на тым здымку — былі вузенькія туфлікі з банцікамі. Сядзела тоненькая, усмешлівая і зусім маладая. І мяне тады яшчэ не было на свеце.

— Хто ж гэта, ніяк не пазна́ю... — мама ніякавата варушыць у руцэ сцяблінку агністай канюшыны — канюшынай і ландышамі ў гэту першалетнюю пару ўсыпаны ўсе могілкі — і нібыта саромеецца, што ніяк не пазна́е ў маім абліччы нешта ёй вельмі блізкае і знаёмае.

— Мамачка, гэта ж я...

— Няўжо ж гэта ты, дзеткі?.. Я ж цябе зусім маленькую пакінула.

— Дык столькі ж гадоў мінула! У мяне ж самое дзеці ў гэтакім ужо ўзросце, як ты. А мае́ ўнукі таксама ўжо старэйшыя за мяне тую, якую ты пакінула.

— Не, дачушка, ні за што не пазнаю цябе...

— Дзіва што не пазнае́ш. Цяпер яна ўжо ўсё роўна, як твая маці, а ты яе дачка.

Я азіраюся: з-за старое бярозы да нас з мамай ідзе мая стрыечная сястра Саша. Я гадавалася ў яе, як памерла мама.



Алена Васілевіч. 2009 г.

— Гэта і ты, галубка, выбралася ўжо сюды, да нас? — не цешыцца і не смуткуе — пытаецца Саша.

— Хіба ж не пара́, Сашка?.. Вы ўсе тут ужо вунь калі сабраліся, а я ўсё адкладвала, цягнула...

— Невяліка ў нас тут уцеха, каб вельмі спяшацца сюды, — заўважае Саша, узіраючыся ў мяне.

— А ты не вельмі і змянілася з таго часу, як я цябе бачыла апошнім разам. Галаву толькі, як снегам, замяло...

— Як вам усім тут? — пытаюся я, усё яшчэ не маючы адвагі канчаткова пераступіць нябачную тую мяжу, за якою і я застануся ўжо з імі. Застануся назаўсёды.

— І праўда, дачушка, лепей бы ты не спяшалася да нас. У гэта наша маўчанне і змрок...

Я гляджу на сваю маму. Які пакорны ў яе позірк. З-пад жалобнага шаўковага шалю выбіваецца цёмная пасмачка валасоў. Мама такая яшчэ маладая... Апошні гарачы жывы боль пранізвае мае грудзі.

Няўжо калі і я пераступлю мяжу, якая ўсё яшчэ нас падзяляе, няўжо і мяне таксама абступіць толькі змрок і маўчанне?

І я ўсё запавольваю і запавольваю свой крок.

— Валодзя і Міша захочуць з табой пабачыцца, — кажа Саша.

Валодзя і Міша — Сашын гаспадар і швагер — займелі сабе тут кватэры зусім нядаўна. Ім, абодвум, наўрад ці такая жаданая тутэйшая дамоўка. У абодвух яшчэ хапала спраў за гэтай агароджай.

— Мішу каб хто якога чытання ды навін з газет і тэлевізар прынёс сюды. Яму без гэтага тут, сярод нас, як нікому іншаму, сумна, — кажа Саша.

А твайму Валодзю касу хіба ці каб граблі. Толькі ён некалі і абкошваў нас тут штолета. Абкосіць усё да травінкі, зграбе, а пад восень зноў усё зелена, усё прыгожа...

Так яны гамоняць між сабою, мама і Саша — пра свае тутэйшае, звычайнае, — у іх. Як мы пра сваё — па той бок, куды ў мяне ўжо няма зваротнай дарогі.

А тут шумяць старыя бярозы, у голлі бесклапотна перагукваюцца птушкі, і маўчаць, нема маўчаць сівыя пахілыя крыжы. І я вяртаюся сюды. Вяртаюся назаўсёды.



Алена Васілевіч на бацькаўшчыне сярод сяльчан (вёска Ліпнікі Слуцкага раёна, 1949). Фота з хатняга архіва.

# Подых маланак



Аляксей БЕЛЫ

***

*Не баяцца ніякіх трывог,*
*Раздражнёнасць хаваць ад сяброў...*
*Нада мной і са мной — толькі БОГ,*
*Што за справа мне да дактароў?*
*І нашто мне сцяжынка ў палях,*
*Калі Ён ужо вызначыў шлях...*

***

*Непрадказальны подых маланак,*
*Так, нечакана, на ўсе нябёсы.*
*Кветкі здзічэюць альбо завянуць,*
*Сябра зірне нязвыкла і коса.*
*Не давядзе да фінала фразу,*
*Ці абарве амаль на паўслове...*
*Што ты з іх возьмеш, з усіх, адразу...*
*(Як гэта будзе — на пальцах ці мове?)*
*...Слоў не знаходзіцца цёплых і шчырых,*
*Страчана ўсё. Бо згубілася вера...*
*Птушкі ізноў збіраюцца ў вырай,*
*Гэта пры тым, што за вокнамі чэрвень...*
*Зноў застанецца чыстай папера.*

### А хацелася...

*Ні ў лесе глухім, ні ў полі,*
*Не сплюшчваў ніколі вочы.*
*Ні з кім не дзяліўся воляй,*
*Той, што даецца аднойчы.*
*Дзе да нябёс дымы?*
*Святаў тут менш, чым будняў...*
*Стомленыя дамы*
*Каля высахлых студняў.*
*Не пад жалезам дах —*
*Гонта ў чатыры скаты...*
*Хто і ў чым вінаваты:*
*Помнікі на кладах*
*Тут даражэй за хаты.*
*Ты тут каторы раз,*
*З кім сёння будуць рэі?..*
*Як мы марнуем час,*
*Бо бярэм «пра запас»,*
*Верым у латарэі...*

### З юнацкага

*Зноў — праз куванне зязюлі*
*І паўз язмінавы вэлюм.*
*Лета мы не абмінулі,*
*Мы ў ім згубіцца паспелі.*
*Спеюць на ўзлеску суніцы,*
*Важкія, быццам у садзе.*
*Дзядзька, гадоў так пад трыццаць,*
*Лодку пад вокнамі ладзіць.*
*Ціха ў матэлі і пуста,*
*Што нам да вёслаў і лодак.*
*П'ем і цалуемся. Глупства?*
*— Не, асалода.*

### Пасля навальніцы

*Вецер нейкі сцяг палошча*
*Ненапружана.*
*Я нясу цябе праз плошчу,*
*Сонца, лужыны.*
*Пах лістоты, пах каленяў,*
*Тонкі шпіль сабора...*
*Сочыць правінцыйны Ленін*
*За ўсім з дакорам.*

### На Вялікдзень

*Побач з роднай вёскай, ля вады,*
*Там, дзе ў ясны дзень блукае рэха,*
*Праўнукі крычаць на ўсе клады:*
*«Дзед і баба, мы да вас прыехалі!».*
*Слёзы зноў праб'юцца з-пад павек,*
*І стрымаць іх ты не знойдзеш сілы.*
*Нас пятнаццаць, можа, чалавек*
*Сталі каля продкавых магілаў.*
*...Велікоднага пачатак дня,*
*Матылёк над першай кветкай б'ецца.*
*Помнікі цалуе малышня*
*І смяецца.*

***

*Караколу прыкладзі да вуха —*
*І адчуеш подых акіяна...*
*У заплечнік ўсё складзеш старанна.*
*Вецер зноў у ветразі і ў спіну,*
*Так бы слухаў гэты шум і слухаў...*

*А жанчына ў суме, што падма́нуць,*
*І ў самоце, што яе пакінуць...*

***

*Ні скептыцызму, ні тлуму, ні хцівасці*
*(Так усё добра зрабіла прырода)...*
*У пацалунках няма сарамлівасці,*
*У іх толькі бездань і асалода!*
*Можа, яшчэ — аб мінулым трывога*
*(Зрэшты, навошта пра гэта*
*нам думаць?)...*
*Стомленасць целаў — свайго і чужога —*
*Без адзіноты, адчаю і суму.*
*Твар той жанчыны —*
*бы ў храмным прытворы.*
*Кветкамі пахне, нібыта ў полі...*
*Робяць тут глупствы*
*і глупствы гавораць,*
*Але пачуцці ўжо не адолець...*

### Чэрвень

*Сюды не дайшоў прагрэс,*
*Не трэба скакаць, бы ў клубе.*
*Працяты сонейкам лес,*
*Зязюля, суніцы, лубін!*

*Ты сум свой сюды прынёс*
*(Дзе зараз твае пагодкі?..).*
*А сосны — аж да нябёс,*
*Прасмоленыя, быццам лодкі.*

*Ды як параўнацца з соснамі,*
*Што памятаюць нас босымі?..*

### Памяць

*Anyway the wind blows*
*(Не важна, адкуль падзьме вецер).*

***З кампазіцыі***
***Queen Bohemian Rhapssody***

*Дрыжыць у тонкіх пальцах цыгарэта,*
*Альбо — «па паясочак» толькі — чарка...*
*І сумаваць аб страчанасці лета*
*Не варта...*
*Няважна — у Падстарыні ці пад Менскам,*
*Прасціны з шоўку ці чужыя клункі...*
*Якое ўсё ж жаданае шаленства —*
*Абдымкі ўсю ноч і пацалункі!*
*Як лёгка ў час такі забыць аб цноце,*
*Не баючыся ні агню, ні грому...*
*І проста «распранаюцца ў палёце»,*
*Дапамагаючы адно другому.*
*І цалаваць не ў шчочку, а старанна,*
*І ўсё, што ёсць, на хліпкі цвік павесіць...*
*І шчыра верыць — гэта апантанасць*
*Не скончыцца ні сёння, ні праз месяц.*
*...Гарыць начнік, але не бачна ценю,*
*І спадзяванне толькі на ўдачу,*
*І Неасэнсаванасць Прыцягнення*
*Нічым (ды і нашто?) не патлумачыць.*
*Няважна, дрэнны ты або харошы,*
*Ніхто не будзе ў гэтым разбірацца.*
*Хаваць настрой,*
*не прападаць без грошай...*
*Ты да Кахання ў гэту ноч запрошаны,*
*Нібы табе і сёння толькі дваццаць.*
*...Упала знічка, і змарнела рэха...*
*Нікуды сёння ўжо не трэба ехаць!..*

***

*Ніколі не мог падумаць,*
*Што можа здарыцца гэтак:*



Фота pikabu.com

*Зайздрошчу Вашаму суму*
*Пра Ўчора, кветкі і лета.*
*І ў сэрцы пануе страх*
*(Мы людзі з раўнін, не горцы).*
*Мы верым ранішняй зорцы...*
*А час — ён дажджом прапах,*
*Як нехта пазначыў з творцаў.*
*Што трэба табе — спакой?*
*Няўжо ў ім лёс чалавечы?*
*Лепш повязь з сіняй ракой*
*І флоксамі ў садзе нейчым.*
*...Гусей пралятае па́ра,*
*І неяк інакш світае...*
*Знікае нехта «з радараў»,*
*І так яго не хапае!..*

### Успаміны

*...Гэты сунічны,*
*падманлівы пах,*
*Шчырага лета аздоба...*
*Бацька трымае мяне на руках,*
*Мама, зазвычай, побач.*
*Поле мінулі і хутар прайшлі,*
*Вось і дарога ў лесе.*
*Пара ўздымаецца*
*з цёплай зямлі,*
*Птушак удосталь і песень.*
*Дрэвы такія — няма ім цаны*
*(Як жа цяпер прымірыцца?):*
*Сосны, што з Першай*
*сусветнай вайны,*
*Елкі аж метраў пад трыццаць.*
*Дуб... Кажуць,*
*што ў ім жыве лесавік.*
*Зараснік — дзікія нетры...*
*Бацька нясе мяне!*
*Ён — франтавік,*
*Росту амаль што два метры!*
*Шляху ж нам —*
*пяць кіламетраў.*
*...Завяззю радуюць вёску сады,*
*Кветкі пры хатах.*
*Мне, можа, тры*
*ці чатыры гады.*
*Хораша так.*
*І — ніякай бяды.*
*Вопратка ў модзе ў вёсцы*
*з аўчын...*
*І я не маю пакуль што прычын*
*Быць хоць прад кім вінаватым!..*

***

*Некаму трэба Мацэста,*
*Некаму — дзікія горы...*
*З кімсьці, «пазбаўленым зместу»,*
*Зноў ні аб чым гаворыш.*
*Зрэшты, гэта ўжо звычка —*
*Час аддаваць дарозе.*
*Пляшка і электрычка...*
*У вокнах — дзяўчо на стозе.*
*Там жа, пры сене, вершнік*
*У кашулі стракатай...*
*Тут ты такі не першы*
*Ймчыш паўз іхнія хаты...*
*А на макаўцы лета*
*Птушак чуў галасы.*
*Рваў на вяршыні Чэгета*
*Кветкі рэдкай красы.*
*Чуў там і голас грому,*
*Што панаваў над гарамі.*
*Ды вярнуўся дадому...*
*Той букецік — у раме!*
*...Б'юць па рэйках калёсы*
*(Вечны PR з квадратам)...*
*Вызначышся з лёсам.*
*Праўда, ля іншых хатаў...*

### Прыэльбруссе

*Далёка і радзіма, і сям'я,*
*І лёд пад вечар*
*друзлы і нячысты...*
*На вышыні чатыры дзвесце я*
*Сустрэўся выпадкова*
*з альпіністам.*
*Мужчына год пад трыццаць,*
*можа, меў,*
*Быў нападпітку трошачкі,*
*магчыма.*
*І я спытаўся ў яго пасмеў —*
*Якая ёсць*
*для радасці прычына?*
*На ўсе пытанні хлопец*
*даў адказ*
*(Так проста гэта*
*пры сваёй Айчыне):*
*«Я сёння ўжо*
*ў сямідзясяты раз*
*Звадзіў турыстаў групу*
*на вяршыню!».*
*Яму было не сумна аднаму,*
*Уніз ішоў і нос свой*
*не тапырыў...*
*Як я зайздросціў*
*дзецюку таму*
*Ў свае няпоўных*
*шэсцьдзясят чатыры...*

***

*Можа, яшчэ не позна*
*(Пэўна ж, калісьці трэба)*
*Проста пабыць сур'ёзным,*
*Проста пабыць цвярозым —*
*Не між зямлёй і небам!*
*Лёгка жыць, не адчайна,*
*Ведаць, што ў цане...*
*Іншаму ўсё — звычайна.*
*Можа, пашчасціць і мне?..*

# Знаёмы незнаёмец

## Да 95-годдзя Івана Бурсава

Тамара АЎСЯННІКАВА

Імёны многіх пісьменнікаў нам знаёмыя. Але… што мы ведаем пра іх? Часцей за ўсё можам абазначыць жанры, у якіх ён працаў. У лепшым выпадку — назваць кнігі або некалькі твораў. Іван Бурсаў аказаўся для мяне таксама знаёмым незнаёмцам. Яго імя я ведала са студэнцкіх гадоў, ведала як перакладчыка і паэта.

Зразумець творы паэта дапамагае знаёмства з умовамі, у якіх ён рос. Важную ролю адыгрываюць і здольнасці, што атрымлівае дзіця пры нараджэнні. Паэтычны талент у Бурсава ад маці і бабулі, мова якіх была насычана паказкамі. Ад іх будучы паэт чуў беларускія народныя песні і казкі.

Нарадзіўся Іван Бурсаў 19 снежня 1927 года ў горадзе Клімавічы Магілёўскай вобласці ў сям'і ваенаслужачага Цярэнція Фаміча Бурсава (1903 — 1986) і сялянкі Ганны Ігнацьеўны Івановай (1907 — 1999). Сямейнае жыццё бацькоў не заладзілася, і Ваня выхоўваўся ў дзядулі з бабуляй. Вялікі ўплыў на будучага паэта аказаў дзядуля, які ў 1937 годзе быў арыштаваны за рэлігійныя погляды і адпраўлены ў лагер, дзе і загінуў. У эсэ «Фрэска» паэт успамінае: «*Іваноў Ігнат Фёдаравіч, ветэран двух войнаў — японскай і германскай, кавалер Георгіеўскага крыжа і двух медалёў, грамацей з чатырма класамі царкоўнапрыходскай школы, любіў услых чытаць Біблію і ведаў на памяць верш Фелікса Тапчэўскага «Панскае ігрышча», якім пад вясёлы настрой часта бавіў гасцей*».

Паэт лічыў сябе прыналежным да роду Івановых. У сям'і дзядулі Ігнація Фёдаравіча і бабулі Марыі Палікарпаўны Івановых было пяцёра дзяцей. Бацька Івана Бурсава пасля скасавання шлюбу змяніў імя Цярэнцій на Валянцін. Прычына не высветлена. Бязбацькаўшчыну будучы паэт адчуваў востра. Калі аднойчы падлетак назваў айчыма «батя», той рэзка перапыніў яго: «Какой я тебе батя?».

Бацьку Іван Бурсаў запрасіў да сябе, калі сам стаў бацькам. Пасля сустрэчы паэт напісаў верш «Письмо отцу», які быў надрукаваны ў часопісе «Советская Отчизна» ў 1955 годзе (№ 4) і ў кнігі паэтам не ўключаўся. Верш заканчваецца так:

*Больше я тебя не потревожу,*
*А письмо…*
*упрёк в нём небольшой*
*Говорят,*
*что на тебя похож я,*
*Может, внешне,*
*только не душой.*
*А за то,*
*что вырос я не хлипок,*
*Что поднялся лестницею дней,*
*Я сегодня говорю:*
*— Спасибо!*
*Родине и матери моей.*

Калі Іван Бурсаў пісаў гэты верш, ён быў упэўнены, што захавае сваю сям'ю і не паступіць так, як бацька. Не атрымалася. Івану Бурсаву прыйшлося перажыць цяжкі і балючы развод. Муж-студэнт забяспечыць сям'ю належным чынам не мог. Шлюб фактычна распаўся, калі паэт вучыўся ў Літаратурным інстытуце імя М. Горкага.

Пра сына Віктара Іван Бурсаў клапаціўся, адносіны падтрымліваў з ім, яго сям'ёй, з унучкамі



Іван Бурсаў з жонкай Рытай Маркаўнай. 2003 г.

да канца свайго жыцця. І ў гэтым заслуга не толькі паэта, але і яго другой жонкі, Рыты Маркаўны.

Быў у сям'і дзень — серада, — у які знаёмыя маглі завітаць без папярэджання. Гаспадары частавалі гарбатай і шасцікапеечнымі магазіннымі катлетамі. За сталом вялася бяседа, чыталіся вершы, потым абмяркоўвалі вершы, навіны, кнігі. Рыта Маркаўна хацела, каб гучала песня. Яна ведала, што ў сям'і Івановых любілі спяваць.

Знешне адносіны Івана Цярэнцьевіча і Рыты Маркаўны былі стрыманымі. Радасць і нягоды дзялілі 54 гады. Яны розныя, але было ў іх і агульнае: адсутнасць сям'і ў самым раннім узросце і матэрыяльная нястача. У час вайны Рыта засталася без бацькоў і выхоўвалася ў дзіцячым доме. Ёй пашанцавала: знайшліся для яе прыёмныя бацькі.

З 1965 года Іван Бурсаў займаўся творчай працаю і за́пісаў у працоўнай кніжцы пасля звальнення з часопіса «Нёман» не было. У эсэ «Гартаючы мінулага старонкі» паэт піша: «*Раніцай, а дзявятай гадзіне, Рыта бегла ў свой навукова-даследчы інстытут адпрацоўваць свае 88 рублёў — стаўку маладшага навуковага супрацоўніка. Пакідала мне, як яна казала, «время для творчества» і поўную патэльню смажаных магазінных катлет з разлікам не толькі на мяне, але і на магчымых гасцей. Наконт апошніх яна рэдка памылялася. Амаль заўсёды да яе вяртання патэльня аказвалася пустой*».

Многае можа сказаць пра творцу яго бібліятэка. Іван Бурсаў быў веруючым чалавекам. Ён праваслаўны, але цікавіўся іншымі рэлігіямі. У бібліятэцы пісьменніка ёсць Біблія, Каран, кнігі па іўдаізме і будызме, філасофіі і эзатэрыцы. Іван Цярэнцьевіч сябраваў з магам Валерам Аўдзеевым, вучнем Месінга. Зачытваўся кнігай «Роза мира» Данііла Андрэева. Яму блізкімі былі погляды Бярдзяева і Рэрыха.

Бібліятэка сям'і Бурсавых заслугоўвае асобнага допісу. Пра колькасць сказаць што-небудзь складана. Толькі кніг з аўтографамі больш пяцісот. Значная частка кніг ужо перададзена ў бібліятэку імя М.А. Някрасава горада Масквы, з якою супрацоўнічаў паэт; у Клімавіцкую цэнтральную раённую бібліятэку — на радзіму паэта; вялікая колькасць кніг, а таксама кніг з аўтографамі захоўваецца ў асабістых калекцыях знаёмых і родзічаў.

У бібліятэцы паэта — руская, беларуская, украінская і замежная класіка, кнігі па міфалогіі (грэчаскай, рымскай, славянскай, скандынаўскай), па беларускім і рускім фальклоры, усемагчымыя слоўнікі і энцыклапедыі, серыя «Философское наследие», у якой творы Арыстоцеля, Гегеля, Герадота, Дзідро, Канта, Плутарха, Ратэрдамскага, Русо… Для працы ў паэта было ўсё пад рукой. У бібліятэку імя У. І. Леніна ён хадзіў у крайнім выпадку.

Іван Бурсаў не быў ідэальным чалавекам. Характар у яго выбуховы, непрадказальны, у маладосці мог і кулакі ў ход пусціць; не адмаўляўся ад чаркі, паліў моцныя цыгарэты. І толькі пасля хваробы на сэрца ён кінуў паліць і ўжываць моцныя напоі.

*Молча выслушал сердце*
*врач лохматый, как Бог…*
*— Не курите!*
*Не пейте!*
*И… поменьше тревог!..*

*Трубку брошу в дороге,*
*рог оставлю врачу.*
*Но кому я тревоги*
*свои поручу?*

(Кніга «Грамота лет».)

Іван Цярэнцьевіч быў чалавекам дзеяння: вырашыў — зрабіў. У маладосці ён аднойчы непрыстойна выказаўся ў прысутнасці мамы. На што мама са скрухай сказала: «І ты, сынок». Гэтае «і ты, сынок» на яго так падзейнічала, што Іван Бурсаў з таго часу больш ніколі не карыстаўся абсцэннай лексікай. Ігар Шклярэўскі, калі ў яго злятала з вуснаў брыдкае слова, заўсёды прасіў прабачэння ў Івана і вінавата заўважаў, што больш не мацюкаецца.

З узростам Іван Цярэнцьевіч стаў разважлівым, змяніліся паводзіны, гаворка, нават знешні выгляд. Кнігі і асяродак, у які ён трапіў у Маскве, фарміравалі духоўнасць паэта, яны паўплывалі на адносіны да жыцця і мастацтва, да людзей і прыроды.

Іван Бурсаў быў беспартыйным. У Савецкай Арміі не служыў. Прызываўся ён Чалябінскім РВК у 1945 годзе, але замест службы трапіў на Чалябінскі металургічны завод, таму што пасля вайны патрэбны былі рабочыя.

Рыхтуючы біяграфію Івана Бурсава, кінулася ў вочы, што прыход паэта ў літаратуру адносна позні, што характэрна для многіх пісьменнікаў яго ўзросту. Дэбют адбыўся 7 жніўня 1953 года: у газеце «Сталинская молодежь» надрукавалі яго верш «Пилоту, нарушившему границы моей Родины». Паэту было 25 гадоў, ён працаваў сцэпшчыкам вагонаў на Мінскім трактарным заводзе. З гэтага часу паэт актыўна друкаваўся ў газетах «Сталинская молодежь», «Советская Белоруссия», «Трактор» і іншых. Яго пакаленне — гэта пакаленне дзяцей вайны. Скончыў Іван Бурсаў да вайны шэсць класаў. І толькі ў 1954 годзе працягнуў вучобу ў школе рабочай моладзі. А ў 1957-м, атрымаўшы атэстат аб сярэдняй адукацыі, паступіў у Літаратурны інстытут імя М. Горкага.

У 33 гады ў Бурсава выходзіць першая кніга «Близкие звёзды» і не ў Беларусі, а ў Маскве. У той час гэта было прэстыжна. Рабочаму-паэту адкрылася дарога ў шматнацыянальную літаратуру Савецкага Саюза. У 1964 годзе яго прымаюць у Саюз пісьменнікаў БССР і СССР.

На першыя кнігі паэзіі «Близкие звёзды» (1960), «Косая сажень» (1964), «Лобжанка-речка» (1967), «Горсть» (1970), «Среда» (1972), а таксама на дзіцячыя кніжкі «Сказки с присказками» (1968), «Страна Голубого Солнца» (1973), «Вы слыхали?» (1975) актыўна адгукнуліся рэцэнзенты. У іх ліку — Р. Бярозкін, У. Гніламедаў, А. Зарыцкі, В. Іпатава, А. Марціновіч, У. Машкоў і іншыя. Усе наступныя кнігі крытыка абышла маўчаннем. Тым не менш, дзіцячыя кніжкі выдаваліся тысячнымі тыражамі. А «Матрёшкины сказки» (1968) вытрымалі чатыры перавыданні (1972, 1973, 1975, 1977) у Берліне, «Сказки, полные чудес» (1979) перакладзены на польскую і балгарскую мовы.

Іван Бурсаў лічыў сябе дзіцячым пісьменнікам. Яго кніжкі карысталіся попытам. У 80-я гады XX ст. па яго сцэнарыях былі зняты мультфільмы «Непоседа» (1983), «Пинчер Боб и семь звоночков» (1984), «Как дед за дождём ходил» (1986). Многія вершы пакладзены на музыку.

Разуменне паэзіі да Івана Бурсава прыйшло на ўроку беларускай літаратуры, калі ён, вучань 5 класа адной з мінскіх школ, чытаў на памяць паэму «Курган» Янкі Купалы. Магчыма, пасля гэтага ўрока Ваня напісаў свой першы верш і адправіў яго ў «Пионерскую правду». Верш надрукавалі, але пад іншым прозвішчам, што вельмі засмуціла юнага паэта.

Любоў да творчасці Янкі Купалы Іван Цярэнцьевіч пранёс праз усё жыццё. І невыпадкова ён быў рэдактарам зборніка паэзіі і публіцыстыкі песняра «Молодая Беларусь». І заканамерным стала завяршэнне «дарослай» паэзіі Івана Бурсава вершам «Янка Купала» ў 2006 годзе.

Іван Бурсаў адносіўся да тых пісьменнікаў, якія маглі абыходзіцца мінімумам рэчаў. Яму было досыць таго, што ён меў. Рыта Маркаўна расказвала, што калі яны і набывалі што-небудзь, напрыклад, машыну «Жыгулі», то на агульных умовах і ў парадку чаргі. Іван Цярэнцьевіч ніколі не быў за межамі Савецкага Саюза. Але па заданні выдавецтва «Молодая гвардия» праехаў краіну Саветаў ад Архангельска да Камсамольска-на-Амуры. Аднойчы Пятрусь Броўка запытаў у паэта, чаму ён не звяртаецца да яго з просьбамі. На што пачуў у адказ: «У мяне ўсё ёсць». Затое да Івана Бурсава з просьбамі звярталіся і пачынаючыя паэты, і вядомыя, такія, як Броўка, Панчанка, Караткевіч, Лойка, Шушкевіч і многія іншыя.

Іван Бурсаў не належаў да трыбунных паэтаў, не адрозніваўся асаблівай гаварлівасцю, але ўмеў слухаць. Ён быў добрым другам, сябраваў з І. Шклярэўскім, Р. Барадуліным, К. Шэрманам, У. Караткевічам, В. Зуёнкам, Н. Шчаснай, С. Красікавым, У. Савельевым, Г. Вылчавым, П. Андэрсанам і іншымі. Самы-найсамы яго сябар — Рыгор Барадулін. Пра гэта сведчаць шматлікія лісты, паштоўкі, дарчыя надпісы: «*Любаму, адзінаму сябру на ўсім гэтым няўтульным шарыку — Івану Бурсаву — твой заўсёды Рыгор. 4.VII.74 г.*».

Пры знаёмстве з творчасцю Івана Бурсава мяне ўразіла адно яго выказванне: «*Я толькі зараз зразумеў, што ўсё жыццё пражыў не ў сваім апярэнні, карыстаўся не той мовай, што змалку жыла ўва мне, тварыла маю асобу, што ўсё жыццё быў толькі птахам-перасмешнікам, імітаваў з большай ці меншай доляй чуласці чужыя галасы і не праспяваў сваёй роднае песні на мове, дадзенай мне Богам…*».

Многія беларускія паэты адзначалі перакладчыцкі талент Івана Бурсава, напрыклад, П. Броўка, Н. Гілевіч. У. Караткевіч кнігу «Вечерние паруса» (1969), перакладзеную Іванам Бурсавым, падпісаў так: «*Дарагому майму генію перакладу і ўвогуле генію творчасці Ваню Бурсаву — ад шчырага сэрца, з любоўю Уладзімір*». Напэўна, у гэтым выказванні і ёсць перабольшванне, але у шчырасці Караткевічу не адкажаш.

Упершыню да перакладаў Бурсаў звярнуўся ў студэнцкія гады па просьбе паэта-зямляка Сцяпана Гаўрусёва. Першая кніга перакладаў «Лучи земли» Ліны Кастэнка выйшла ў 1960 годзе адначасова з яго першай кнігай «Близкие звёзды». Потым былі кнігі перакладаў многіх беларускіх аўтараў, такіх, як М. Багдановіч, В. Дунін-Марцынкевіч, Р. Барадулін, П. Броўка, Г. Бураўкін, А. Грачанікаў, В. Зуёнак, Е. Лось, У. Паўлаў і іншыя.

Доктар філалагічных навук Вячаслаў Рагойша ў артыкуле «Беларуская паэзія ў рускамоўным узнаўленні Івана Бурсава» пра кнігу «Шаги» слушна заўважыў: «*Анталогію беларускай паэзіі І. Бурсава можа выкарыстоўваць не толькі т. зв. «шырокі чытач». Ёй можна карыстацца ў расійскіх універсітэтах у якасці вучэбнага дапаможніка пры вывучэнні гісторыі беларускай літаратуры адпаведнага перыяду. А часам — і гісторыі літаратуры рускай, гісторыі самой Расіі*».

Дзве анталогіі — «Шаги» і «Дыхание времени» — прадстаўляюць XIX і XX стагоддзі беларускай паэзіі. Яны сталі лебядзінай песняю Івана Бурсава.

Паэт адрозніваўся вялікай працаздольнасцю. Рыгор Барадулін назваў яго «чорнарабочым жыцця». Іван Бурсаў самаахвяраддана рабіў тое, што лічыў патрэбным.

Не стала нястомнага працаўніка 11 лістапада 2019 года. Пахаваны Іван Бурсаў у Маскве на Алабушаўскіх могілках (Зеленаградскія цэнтральныя могілкі, рэгістрацыйны № 2704, месца № 29).

*Далёкий потомок неведомый мой*
*(прочны между*
*Прошлым и Будущим звенья),*
*когда-нибудь вспомни*
*под вечной луной*
*стальное звено*
*моего поколенья.*

(Кніга «Грамота лет»).

Іван Бурсаў яшчэ не прачытаны і ў нейкай ступені застаецца знаёмым незнаёмцам. Нове адкрыццё пісьменніка, спадзяюся, адбудзецца.

***29.11.2022.***

